КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 19 (291) ◂ 11 мая ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**НАТАЛЛЯ ІЛЬІНІЧ**

Стар. 6

**БЕЛАРУСЬ ЧАКАЕ «ЭЛЕГАНТНАЯ КАЛАНІЗАЦЫЯ»**

Пра пагрозы, якія нясе Еўразійскі саюз, аглядальнік Раман Якаўлеўскі распавядае журналістцы Вользе Хвоін

Стар. 4

**ГРЭЦЫЯ АБРАЛА ХАОС**

На выбарах 5 мая грэкі адмовілі ў даверы вядучымі партыямі за прынятыя імі меры жорсткай эканоміі. Трыумфатарамі сталі левыя радыкалы. Пра наступствы такога выбару журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з Вольфганам Церпінам, нямецкім журналістам, які працуе ў Грэцыі

Стар. 12

**ПАРАДОКСЫ 1993 ГОДА**

Стар. 14

ISSN 2218-2144




**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ВЯЛІКІЯ КАМБІНАТАРЫ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ**

Артыкул гісторыка Ігара Мельнікава

▸ З НАГОДЫ

# ТЭРМІН ПРЫДАТНАСЦІ

Вольга ХВОІН

**Кожную вясну ўлады Беларусі гучна прамаўляюць пра ваенныя поспехі краіны часоў Другой сусветнай вайны. Традыцыйна ладзяцца парады і шэсці з удзелам ветэранаў, моладзь запэўніваюць, што перамога СССР у 1945-м ёсць безапеляцыйным подзвігам. Згадваюцца васьмізначныя лічбы ахвяраў, мужнасць народа, зверствы фашызму. І гэты завучаны, гадамі тыражуемы сцэнар часам выглядае не зусім зразумелым на тле сучаснасці: быццам дэкарацыі ў тэатры змяніліся, а акторы са сцэны так і не сышлі.**



Не будзем аспрэчваць вартасць той перамогі, ставіць пад сумнеў мужнасць людзей, якія выявалі ці з усіх сілаў імкнуліся выратаваць сваіх родных. Зразумела, усе факты расстрэлу партызанамі мірных жыхароў, загараджальныя атрады, здрады ды іншыя негераічныя плямы той вайны нельга нават спрабаваць паставіць побач з досведам дзяўчынкі, якую ў адзінаццаць гадоў вывезлі ў Нямеччыну, каб забраць яе крой параненым. Уратавалі слёзы: камісія вырашыла, што дзяўчынка занадта знерваваная, каб быць донарам, і адправіла яе на гаспадарчыя працы.

Амаль праз сем дзясяткаў гадоў мірнага жыцця гэтая ўжо састарэлая жанчына кожны раз плача, калі ўзгадвае, як у нямецкай вёсцы палонныя нарэшце пабачылі савецкіх салдат, як радасна было вярнуцца з дзіцячага дома на спалены падворак да маці. Цяпер мы разважаем пра тое, што адна злачынная сістэма знішчыла іншую. Але для пераважнай большасці савецкіх людзей тая вайна была змаганнем за сваю (не савецкую) зямлю і будучыню.

І ўсё ж у дні цяперашнім, да якога ўзгадаваліся тры пакаленні беларусаў — мірных людзей, «ураратрыятычная» рыторыка, змаганне са знешнім ворагам (гэты пункт старанна культывуецца ўвесь час, а не толькі 9 мая) неактуальныя. Краіна адбудаваная, свет стаў глабальным, патрыятызм у нармальным разуменні гэтага слова цяпер ёсць любоўю да пэўнай геаграфічнай тэрыторыі, асэнсаваннем каштоўнасці гістарычных артэфактаў. Другая сусветная вайна, як і Вялікая Айчынная, адыходзіць у той жа шэраг, што і вайна 1812 года. А былы вораг пераўтварыўся ў мару многіх беларусаў.

Цяпер 65 працэнтаў беларускай моладзі хацелі б пакінуць краіну (вынікі апытання НІСЭПД). Найбольш прывабнымі для беларускай эміграцыі выглядаюць Германія і ЗША. Маладая мірная Беларусь з вялікім досведам партызанкі стала абузай для маладых людзей, тормазам да ўласнай рэалізацыі. І ці многа думак у такой сітуацыі звяртаецца да геніяльнага вайсковага мінулага?

У даследаванні НІСЭПД 2010 года на пытанне: «Як Вы думаеце, ці могуць маладыя людзі сёння зрабіць паспяховую кар'еру ў Беларусі» 44,9% апытаных адказалі: «Не, для гэтага моладзі лепей ехаць у іншую краіну». У 2008-м прыкладна кожны трэці беларус лічыў, што паспяховай кар'еры моладзь тут не збудзе. Краіна-пераможца перайшла ў катэгорыю лузераў, якіх звычайна з задавальненнем і радасцю кідаюць. Поспех і слава — абавязковыя складнікі прыцягальнага героя-пераможцы. Але пажыццёва гэты статус выдаецца толькі героям старажытнага міфалагічнага пантэону ды падручнікаў гісторыі. У рэальнасці яго трэба ўвесь час пацвярджаць.

Закапаўшыся ў падзеях сярэдзіны мінулага стагоддзя, Беларусь крыху забылася на будаўніцтва вобразу геаічнага сённяшняга дня. Не, ваюем мы штогод, рэгулярна і ўжо загадзя ведаем сваіх праціўнікаў: ураджай зерневых, веснавы паводак, снежныя заносы, адмарожаная пятая калона (спіс ворагаў можна працягнуць на ўласны густ). Аднак ці робіць гэта нас героямі ва ўласных вачах або ў вачах суседзяў? Спрэчна з адчуваннем далучанасці да гэтых «эпахальных» працэсаў, драбнаватая задума для «лакальных войнаў». Разам з тым без актуальнага аб'ядноўваючага канструкту грамадства сыходзіць у стан аўтызму — кожны забіваецца ў сваю нару і жыве аўтаномным жыццём. Сувязь з краінай і нацыяй, адказнасць перад імі, супольная будучыня з імі мінімальныя.

З Вялікай Айчыннай вайны Беларусь выйшла з вялізнымі чалавечымі стратамі, але з захаванай нацыяй. І дзіўна глядзець цяпер, як гэта нацыя співаецца ад тугі, расцярушваецца па свеце ад беспрасветнасці, асімілюе з братамі-расіянамі, бо «мы такія ж, толькі са знакам якасці». Відаць, эпоха вялікай Перамогі як важнейшага пасылу для нацыі скончылася, а знайсці ёй замену, што скіроўвала б беларусаў у канструктыўным рэчышчы ў светлае заўтра, не змаглі.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### СЛУЦК. ГРАДКІ НА РАЗАРАНАЙ ЦАЛІНЕ

**На месцы знішчаных гародаў уздоўж праезнай часткі ў раёне вуліцы Сацыялістычнай красуецца быльнік. Менавіта тут ваенным пенсіянерам прапанавалі рабіць градкі замест знішчаных нядаўна трактарам.**

Вылучаць новую зямлю пад гароды збіраліся толькі ўвосень. Але адвольная ліквідацыя ўладамі градак ваенных пенсіянераў нарабіла шуму. Мясцовыя ўлады не прынеслі ніякіх афіцыйных выбачэнняў жыхарам горада, але распарадзіліся разараць новы ўчастак зямлі пад гародніну.

Новы ўчастак прылягае да папярэдняга ўчастку і ўяўляе сабой поле, на якім працяглы час расла трава. Поле разарана трактарам, але агароднікам давядзецца нямала папрацаваць, каб зноў акультурыць участкі. Не кожнаму такая праца пад сілу, таму не ўсе былыя ўладальнікі градак пагадзіліся ўзяць зямлю.

Пётр Іванавіч Сцепановіч, уладальнік непашкоджанага ўчастку, паведаміў, што напісаў шмат скарг у розныя інстанцыі ў сувязі з нецывілізаваным учынкам уладаў.

«Па Канстытуцыі, улада належыць народу. Значыць, улада павінна служыць народу, а не знішчаць плён яго працы. Я сам не папакутаваў, але магу сапраўды таксама папакутаваць у далейшым. У гэтай справе важная салідарнасць. Напісаў скаргі, схадзіў у райвыканкам, ЖКГ. Дарэчы, пасля гэтай самаўпраўнасці некаторыя мае суседзі таксама пачалі цікавіцца Канстытуцыяй», — распавядае Пётр Іванавіч.

«На ранейшым участку ў мяне б была трускаўка. Перасадзіць яе не атрымалася — не паспела. Трактар поле пераараў, але яно не ўгноенае. Наўрад ці сёлета атрымаю ўраджай. Вось працую: вызваляю зямлю ад каранёў травы. Крыўдна, вядома. Але што паробіш? Там, дзе была мая трускаўка, зараз траншэі, якія зарастаюць пустазеллем. Можа, потым зробяць траўнікі? Можна б было прапанаваць людзям пасадзіць напачатку градак перад дарогай кветкі і не чапаць участкі.Нядобра ўлады паступілі. Але кампенсацыю патрабаваць не буду — баюся непрыемнасцяў», — тлумачыць Надзея Мацвееўна, 67-гадовая пенсіянерка.

Шматлікія людзі не захацелі па-новаму саджаць. Ды і баяцца, што зноў усё знішчаць.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

### ЖЛОБІН. АКТЫВІСТЫ СУДЗЯЦЦА З РАЙВЫКАНКАМАМ

**Грамадскія актывісты са Жлобіна спрабуюць аспрэчыць рашэнне мясцовага райвыканкама пра забарону правядзення пікету, на якім дэмакраты планавалі абмеркаваць з жыхарамі раённага цэнтра заявы прэзідэнта пра мінулыя прэзідэнцкія выбары.**

«У сакавіку мы заявілі пра правядзенне пікету, на якім планавалася абмеркаваць выказванне прэзідэнта пра фальсіфікацыі на мінулых выбарах, — распавёў мясцовы актывіст, кіраўнік раённай арганізацыі партыі левых «Справядлівы свет» Валер Рыбчанка. — Райвыканкам адмовіў нам у гэтым. Мы падалі ў суд на гэта рашэнне мясцовай вертыкалі».

Замест старшыні Жлобінскага райвыканкама Леаніда Апанасюка на суд з'явіліся юрысты і галоўны ідэолаг раёна Валянціна Нехай. Адказчыкі сведчылі, што праводзіць пікеты Рыбчанка не мае права, паколькі ён прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне Закона пра масавыя мерапрыемствы (нагадаем, у лістападзе 2011 года Валер адседзеў 14 сутак за арганізацыю Народнага сходу).

«Аднак на момант адмовы ў правядзенні пікету ў службоўцаў з райвыканкама не было дакументаў, якія б пацвярджалі гэта, — кажа Рыбчанка. — Калі ідэолагам і юрыстам задалі пытанне, адкуль стала вядома пра маё затрыманне, яны растлумачылі, што прачыталі гэта ў інтэрнэце. Думаю, што тут нават каментаваць няма чаго».

Як растлумачыў Рыбчанка, суд не паставіў кропку ў гэтай справе, і пасяджэнне па пікеце будзе працягнутае.

Нагадаем, жлобінскія актывісты накіравалі ў снежні запыт у Генпракуратуру, у якім прасілі даць прававую ацэнку выказванням прэзідэнта. У кастрычніку 2011 года кіраўнік дзяржавы заявіў, што прэзідэнцкія выбары ў Беларусі праходзілі, не зыходзячы з беларускага заканадаўства, а «па паняццях Еўрапейскага саюза». Генеральная пракуратура адказала на дадзены запыт адпіскамі.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ЗАТРЫМАЛІ ЛЮДЗЕЙ З КАНСТЫТУЦЫЯЙ

Марат ГАРАВЫ

**8 мая прадстаўнікі Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры з усіх рэгіёнаў краіны былі затрыманыя каля сталічнай плошчы Незалежнасці.**

Людзі ішлі з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь у руках ад чыгуначнага вакзала, каб перадаць Аляксандру Лукашэнку, які выступаў у Доме ўраду са штогоднім пасланнем да народа і парламента, свой зварот і падарунак — расцяжку з тэкстам: «Артыкул 40 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: «Кожны мае права накіроўваць асабістыя або калектыўныя звароты ў дзяржаўныя органы. Дзяржаўныя органы, а таксама службовыя асобы абавязаны разгледзець зварот і даць адказ па сутнасці ў вызначаны законам тэрмін».

Прыкладна каля 10.30 прадстаўнікі грамадзянскай ініцыятывы былі затрыманыя супрацоўнікамі праваахоўных структур у цывільным падчас выхаду на плошчу Незалежнасці. Пры гэтым падарунак кіраўніку дзяржавы быў канфіскаваны, хаця супрацоўнік праваахоўных структур абяцаў вярнуць расцяжку і нават назваўся. Але расцяжка так і не была вернутая.

Паколькі тыя, хто сабраўся, адмовіліся перадаць тэкст звароту ў сакратарыят парламента, ім прапанавалі накіравацца у Дом ураду прадстаўніка грамадскасці. Але людзі адмовіліся, бо жадалі прайсці ў Дом ураду і сустрэцца з прэзідэнтам. Мітынгоўцам паабяцалі, што пасля таго, як Лукашэнка закончыць свой выступ і адкажа на пытанні, з людзьмі сустрэнецца «хто-небудзь з чыноўнікаў».

Але праз пяць гадзін, калі Лукашэнка пакінуў парламент, супрацоўнікі праваахоўных органаў заявілі людзям, што яны ўжо вольныя і могуць ісці куды хочуць. Прадстаўнікі грамадскай ініцыятывы ў атачэнні невядомых у цывільным прайшлі ў Дом ураду, дзе іх ніхто не чакаў.

У каментары «Новаму часу» лідар ініцыятывы, юрыст Тамара Сяргей адзначыла: «За апошнія пяць гадоў мы трыццаць пяты раз звяртаемся да Аляксандра Лукашэнкі. Аднак на ўсе звароты атрымлівалі адказы ад чыноўнікаў Адміністрацыі прэзідэнта. Мы не аднойчы ставілі пытанне пра сустрэчу з кіраўніком дзяржавы, аднак нам заўсёды адказвалі, што такой магчымасці няма. Вось чаму сёння, калі прэзідэнт выступаў з пасланнем, мы прыйшлі да Дома ўраду дзеля таго, каб быць пачутымі і сустрэцца з кіраўніком дзяржавы для вырашэння праблемы адпісак з органаў суда і пракуратуры. Але нас падманулі».

ІНІЦЫЯТЫВА

## ЦЮЛЬПАНЫ ЗАМЕСТ ЦЭГЛЫ

**Адзін з двух цэхаў Обальскага керамічнага завода зачынены, з працаўладкаваннем скарочаных працоўных — праблемы. У пошуку выйсця з крызісу обальскія вытворцы цэглы пачалі будаваць уласныя цяпліцы.**

Керамічны завод — «горадаўтваральнае» прадпрыемства ў мястэчку Обаль Віцебскай вобласці — працуе нестабільна. Шматлікія працаўнікі атрымліваюць трацінy тарыфнай стаўкі, так што сярэдняя зарплата па прадпрыемстве — каля 1600000 рублёў.

Праблемы ў прадпрыемства асабліва востра паўсталі ў 2009 годзе, калі ад прадукцыі адмовіліся расійскія спажыўцы — там зараз наладжана свая цагляная вытворчасць. У беларускіх будаўнікоў обальская цэгла таксама моцнай цікавасці не выклікае — прадукцыя віцебскага ААТ «Кераміка» значна больш высокай якасці. Будаўнічыя арганізацыі і прыватнікі выбіраюць прадукцыю і яшчэ аднаго канкурэнта — лагойская цэгла абыходзіцца ўтрая танней.

Таму прадпрыемства будуе дзве цяпліцы: адну на 600 квадратных метраў, другую — на 300. Тут плануюць гадаваць расаду гародніны і кветкі на продаж.

**Паводле сайта «Беларускія рэгіянальныя навіны»**

СПРАВА

## ДНІ ПАМЯЦІ АНТОНА НЕМАНЦЭВІЧА

Сяргей ЧЫГРЫНІ

**У мікрараёне Альбярцін Слоніма ў касцёле Каралевы Міра, а таксама на альбярцінскіх могілках 8 мая пачаліся Дні памяці пакутніцкага подзвігу апостальскага грэка-каталіцкага экзарха Беларусі Антона Неманцэвіча і ягонай пастывы на тэрыторыі Палесся і Гродзеншчыны.**

У малітоўным успаміне прыняў удзел сакратар Кангрэгацыі па справах Усходніх Касцёлаў арцыбіскуп Кірыл Васіль.

Малітва аб'яднала два асноўныя месцы: Слонім, у цяперашнім прадмесці якога Альбярціне пачаўся пакутніцкі подзвіг беларускага экзарха Антона Неманцэвіча, і Івацэвічы (на тэрыторыі Івацэвіцкага раёна знаходзіліся вёскі парафіі Бабровічы, жыхары якіх былі спалены фашыстамі).

### Даведка:

Антон Неманцэвіч (1893–1943) паходзіў з сям'і беларусаў-перасяленцаў з Сакольшчыны (Беласточчына). Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. У верасні 1915 года высвечаны на святара. У тым жа годзе далучыўся да беларускага руху. Скончыў Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію, стаў вікарыем парафіяльнага касцёла св. Кацярыны ў Колпіне пад Петраградам. З 1918 года нёс душпастырскае служэнне ў Маскве. Праследаваўся бальшавікамі за рэлігійную дзейнасць. Дзякуючы абмену палітвязнямі ў 1925 годзе перададзены Польшчы.

Па накіраванні мітрапаліта Эдварда Ропа паехаў у Рым на тэалагічныя студыі ў Папскім усходнім інстытуце, дзе стаў доктарам тэалогіі. Затым з'яўляўся прафесарам у Люблінскім місійным інстытуце і адначасова працаваў як катэхет у школах. У 1928–1929 выкладаў параўнальную тэалогію ў Люблінскім каталіцкім універсітэце. У 1929 годзе ўступіў у ордэн езуітаў; прыняў усходні абрад. У 1932–1937 гадах быў рэдактарам і выдаўцом беларускага рэлігійнага часопіса «Да злучэння». У 1938 годзе працягваў выдаваць забаронены часопіс «Да злучэння» ў Варшаве пад назвай «Злучэнне». З 1940 года ўзначаліў Беларускі экзархат грэка-каталіцкай царквы. За ім беларуская мова упершыню ў гісторыі Царквы ў Беларусі стала афіцыйнай у справаводстве і ў царкоўным жыцці. Заснаваў «Апостальства малітвы за Беларусь». Арыштаваны гестапа 4 ліпеня 1942 года ў Альбярціне. Ён памёр, знясілены турэмнымі ўмовамі ў Мінскай турме СД ад сардэчна-сасудзістай недастатковасці 6 студзеня 1943 года. Пахаваны 9 студзеня 1943 на нямецкіх могілках у Мінску святаром мясцовай праваслаўнай Царквы.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ШТРАФ — ЗА ПРАГЛЯД САЙТА «ХАРТЫІ–97»

**Кіраўніка інтэрнэт-праекта «Электронны Віцебск» Дзяніса Кудрына затрымалі ў памяшканні пункта калектыўнага карыстання інтэрнэтам на мінскім чыгуначным вакзале.**

На сайце e-vitebsk.by хлопец распавёў, як усё адбылося: «Жанчына, якая прымала ў мяне аплату за карыстанне інтэрнэтам і запісвала мае пашпартныя дадзеныя, проста падышла да мяне і сказала: «Зачыніце, калі ласка, сайт». Я, натуральна, пацікавіўся, чаму я павінен гэта рабіць. Адказу я так і не атрымаў. Яна выйшла і літаральна праз 5 хвілін вярнулася з супрацоўнікам міліцыі, які ў шыю выштурхаў мяне з інтэрнэт-клуба, заявіўшы мне, што я лаяўся матам і абражаў супрацоўніка міліцыі. Мяне зацягнулі ў нейкі пакой на першым паверсе і супрацоўнік міліцыі пачаў мяне збіваць. Пазней мне паведамілі, што калі яшчэ разоў убачаць у інтэрнэт-клубе на чыгуначным вакзале, то будзе вельмі-вельмі дрэнна. Плюс да гэтага ўсяго я атрымаў штраф 5 базавых велічынь. Вось у якой краіне мы жывём, што нельга нават пачытаць навіны!»

«Нарэшце я зразумеў, у якой краіне жыву», — так Дзяніс пракаментаваў здарэнне ў сацыяльнай сетцы «ВКонтакте».

**Паводле Spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ГОД З ЛУКАШЭНКАМ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На мінулым тыдні адбылася падзея, якую ўсе чакалі яшчэ з месяц таму. Лукашэнка выступіў з пасланнем да парламента і народа. На наступны дзень ён узяў удзел у святкаванні Дня Перамогі — 9 мая. Канцэптуальных рэчаў, аднак, мы ад яго не пачулі. Здаецца, у краіне пачаўся застой — як пры Брэжневе.**

У прынцыпе, аналітыкі не заўважылі ніякіх прынцыповых крокаў у пасланні. «Для таго, каб прадаць штонебудзь непатрэбнае, трэба спачатку набыць што-небудзь непатрэбнае. А ў нас грошаў няма», — казаў у мультфільме «Прастаквашына» кот Матроскін. Тое ж самае і ў нас.

Лукашэнка заявіў, што ўрад проста вымушаны падымаць цэны. Паводле яго слоў, рост цэн можна спыніць элементарна хоць заўтра ці сёння, аднак «атрымаўся страшны разрыў у цэнах. Па некаторых пазіцыях розніца з Расіяй і Украінай складае восем разоў. Таму ўрад вымушаны падстройваць цэны». Беларускі кіраўнік упэўнены, што рост цэн абумоўлены не ўнутранымі прычынамі. «Галоўная прычына заключаецца ў тым, што ажыццяўляецца масавы вываз тавараў з краіны. Прычым усіх тавараў — і харчовых, і нехарчовых», — сказаў ён.

«Усе крычаць, што ў нас дарагі бензін. У нас 70–80 цэнтаў, у ЕС — да 1,5–2 еўра гатовы цэны на яго ўзнімаць… Выраўноўваць цэны давядзецца. Але мы робім гэта акуратна і асцярожна. Мы паволі рухаемся ў гэтым кірунку», — заявіў Лукашэнка.

Тое, што мы «павольна выраўноўваем цэны», — гэта, канешне, добра. Але хацелася б, каб павольна выраўноўваліся і заробкі. У выніку крызісу нашы людзі атрымоўваюць зараз доляраў трыста (Лукашэнка толькі паставіў задачу выхад на дакрызісны ўзровень ў 500 доляраў), у той час, калі ў Расіі менш чым за 800 доляраў і працаваць ніхто не будзе.

У выніку Беларусь ператварылася для расіян у тое ж, ува што для беларусаў ператварыліся Літва і Польшча. Хто мае магчымасці — раз-пораз ездзіць туды. Там і харчы, і рэчы танней. Але чамусьці там ніхто не крычыць пра вываз тавараў. Яны атрымліваюць прыбытак — гэта стымул для развіцця вытворчасці. Чаму ж гэтага няма ў нас?

Лукашэнка, канешне, адзначыў, што высокія цэны ў свеце на харчаванне — гэта «шанс для нашых сялян і нашай дзяржавы». «Пры такой спрыяльнай знешняй кан'юнктуры і пры тых каласальных укладаннях у вёску наш АПК проста абавязаны сам у найбліжэйшай будучыні паказаць бліскучыя вынікі працы», — заявіў Лукашэнка. Дык чаму ж ён наракае на скупку сельгаспрадукцыі?

Між тым, каб «прадаць што-небудзь непатрэбнае», Лукашэнка заявіў, што Беларусь адмовілася ад спісаў аб'ектаў, якія падлягаюць прыватызацыі. «І не таму, як некаторыя пісакі сёння пішуць, каб з-пад палы прадаць дзяржаўную ўласнасць. Мы заявілі аб тым, што апублікаванне загадзя спісаў прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца, — гэта знявага работнікаў, якія працуюць на гэтых прадпрыемствах», — сказаў Лукашэнка.

Паводле яго слоў, любое прадпрыемства можа быць прыватызавана. «Пытанне ў цане і ў выкананні інвестарам тых умоў, якія існуюць у Беларусі. Калі вам гэтыя ўмовы не падыходзяць — Бог з вамі», — заявіў прэзідэнт. Ён прывёў прыклад Мінскага аўтазавода.

Нядаўна, сказаў Лукашэнка, ён прачытаў у СМІ, што «адзін з дзеячаў у Расіі, ведучы перамовы пра акцыянаванне МАЗа, заявіў: Беларусь занадта вялікую цану заламала на перамовах». «Не падабаецца — не хадзі сюды. МАЗ сёння — паспяховае прадпрыемства, выдатна канкуруе, мы не спяшаемся з прыватызацыяй МАЗа. Мы гатовыя прыватызаваць нават "Беларуськалій", рэнтабельнасць у якога 70–100 працэнтаў. Але гэта — пытанне цаны», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

То бок, прыходзь і забірай, але на нашых умовах. Але нашы ўмовы — гэта тады, калі ў любы момант можа быць уведзена «залатая акцыя», і ўсе вашы інвестыцыі пойдуць прахам. Ласкава просім, спадары інвестары!

А вось каму пашанцавала, дык гэта зэкам. Аляксандр Рыгоравіч пацвердзіў — амністыі быць. Ён даручыў ураду «апяратыўна падрыхтаваць праект закона аб амністыі, якую мы зможам прымеркаваць да нашага галоўнага дзяржаўнага свята — Дня Незалежнасці».

«Я ўжо аб гэтым гаварыў: дастойныя людзі пакутуюць у засценках, а нягоднікаў мы выпускаем — пад ціскам ці не пад ціскам», — заявіў ён.

Паводле слоў Лукашэнкі, пазбаўленне волі не заўсёды з'яўляецца адэкватнай мерай пакарання і выхавання. «Генеральнай пракуратуры, Следчаму камітэту неабходна дакладна прааналізаваць практыку прымянення такой меры стрымання, як зняволенне пад варту, — падкрэсліў ён. — Яна ў нас стала практычна татальнай. Навошта аддзяляць ад знешняга свету энергетычных, здольных людзей, калі яны ўчынілі правапарушэнні, якія не нясуць ніякай небяспекі для жыцця і здароўя грамадзян?»

«Вазьміце залог, падпіску [аб нявыездзе], але не кідайце чалавека на нары. Памятайце: толькі суд выносіць вердыкт. Але пры гэтым павінна быць гарантавана, што ён не ўцячэ і мы не будзем шалёныя грошы траціць, каб яго потым адшукаць, як у нас часта бывае», — сказаў беларускі кіраўнік.

«Трэба пераадолець абвінавачвальны ўхіл у дзейнасці нашых праваахоўнікаў», — лічыць ён.

Вось, хоць штосьці да яго дайшло. Пра гэта не адзін год кажуць праваабаронцы. Паглядзім, наколькі гэтае даручэнне было выканана. Дарэчы, «эканамічны злачынца», вядомы праваабаронца Алесь Бяляцкі, дагэтуль сядзіць за кратамі па абвінавачванню ў нясплаце падаткаў. Хаця за яго была сплачана ўся сума «эканамічнай шкоды», і аніякай небяспекі для грамадства ён не ўяўляе. І збягаць нікуды не збіраецца. Для гэтага ў яго былі ўсе магчымасці, але ён застаўся, і трапіў у турму.

Калі яго выпусцяць — тады я паверу Лукашэнку.

Вельмі непрыемна здзівілі нашы дэпутаты. Амаль усе іх пытанні зводзіліся да аднаго: «Дайце грошай!». Лукашэнку ўзгадалі нізкія заробкі дзяржаўных чыноўнікаў (тры разы нават не «ха-ха-ха!», а «гы-гы-гы!»), ільготы для вязняў фашысцкіх канцлагераў (а навошта іх было адмяняць?), і нават кампенсацыю савецкіх укладаў.

Ды адкуль грошы? Вам жа ясна паведамлена: «Для таго, каб прадаць што-небудзь непатрэбнае, трэба спачатку набыць што-небудзь непатрэбнае. А ў нас грошаў няма». «Нізкія заробкі» чыноўнікаў параўнайце не з супрацоўнікамі банкаў, а з педагогамі. Кампенсацыя савецкіх укладаў — да Расіі, яна ж пераемніца СССР. Толькі вось для вязняў фашызму трэба было б увесці льготы, як і для «чарнобыльцаў».

Карацей, нялёгкае гэта было пасланне для Аляксандра Рыгоравіча.




## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ДЗМІТРЫЙ ДАШКЕВІЧ

Лідар міжнароднай моладзевай арганізацыі «Малады фронт» (Чэхія) Дзмітрый Дашкевіч стаў першым лаўрэатам Прэміі Свабоды, заснаванай моладзевай арганізацыяй Еўрапейскай народнай партыі (YEPP) у 2012 годзе. Пра гэта БелаПАН паведаміла намеснік старшыні арганізацыі Наста Палажанка. Кіраўніцтва YEPP даслала ліст, у якім паведаміла, што Дзмітрый Дашкевіч вядомы ім як старшыня «Маладога фронту», які з'яўляецца сябрам YEPP, і як арганізатар і ўдзельнік шматлікіх вулічных акцый. У лісце адзначаецца, што за арганізацыю і ўдзел у пратэстных акцыях Дашкевіч быў асуджаны да шматлікіх адміністрацыйных арыштаў, сутыкаўся з крымінальным пераследам.

«Мы з захапленнем назіралі за вашай барацьбой за свабоду ў вашай краіне, і нашы сэрца з вамі ў гэтыя цяжкія часы. YEPP актыўна займаецца пытаннем свабоды ў Беларусі, мы ўдзельнічаем у кампаніях па рассылцы паштовак і міжнародных пратэстах. Мы спадзяемся, што, узнагародзіўшы вас нашай першай Прэміяй Свабоды, мы паглыбім наш удзел у вашай справе», — гаворыцца ў паведамленні.

Моладзь Еўрапейскай народнай партыі (Youth of the European People's Party) — моладзевая арганізацыя Еўрапейскай народнай партыі, якая аб'ядноўвае больш за 50 хрысціянска-дэмакратычных моладзевых палітычных арганізацый больш чым у 35 краінах Еўропы.

### МАКСІМ МІРНЫ



Беларускі тэнісіст Максім Мірны і канадзец Даніэль Нестар у новым рэйтынгу TOP 100 ATP ідуць на першым месцы сярод пар. У параўнанні з папярэднім рэйтынгам пара Мірны / Нестар паднялася на два радкі. Другое месца займае пара Боб Браян / Майк Браян з ЗША, замыкае тройку лідараў французска-сербская пара Мішэль Ллодра / Ненад Жымоныч. Цяпер у беларусаў два першыя нумары рэйтынгу: Макс Мірны ў мужчынскім парным разрадзе і Вікторыя Азаранка — у жаночым адзіночным.

«Шчыра кажучы, я не надаваў вялікай увагі падліку балаў на гэтым тыдні, што дазволіла нам выйсці на першае месца ў рэйтынгу, — прызнаўся Макс Мірны ў інтэрв'ю ATPWorldTour.com. — Хоць, вядома, вынік нас вельмі пацешыў. Гэта сведчыць пра тое, што мы выдатна папрацавалі разам з Даніэлем у мінулым годзе і ў турнірах гэтага года».

Макс Мірны і Даніэль Нестар за апошні час атрымалі перамогі ў шасці турнірах, сярод якіх такія прэстыжныя, як Roland Garros, Barclays ATP World Tour Finals, Brisbane International і турнір у Мемфісе. Таксама яны паспяхова згулялі на Regions Morgan Keegan Championships у Мемфісе, дзе дайшлі да фіналу, а таксама на Monte-Carlo Rolex Masters, дзе яны ў вырашальным матчы прайгралі Браянам.

У 2012 годзе Максім Мірны атрымаў у пары 26 перамог пры 7 паразах.



### ЯЎГЕН МЕРКІС

Кіраўнік гомельскай моладзевай краязнаўчай грамадскай арганізацыі «Талака» Яўген Меркіс прыцягвае ўвагу грамадскасці да праблемы абласнога цэнтра: гістарычная драўляная забудова Гомеля пад пагрозай поўнага знішчэння.

«Гістарычная драўляная забудова Гомеля знаходзіцца цяпер пад пагрозай поўнага знішчэння. Згодна з нядаўна зацверджаным новым генпланам развіцця горада, усю аднапавярховую забудову ў цэнтры, нягледзячы на яе гістарычную, архітэктурную або мастацкую каштоўнасць, плануюць знесці. Намаганні гомельскіх гісторыкаў і актывістаў па стварэнні спецыяльных ахоўных зон або музеяў пад адкрытым небам пакуль застаюцца марнымі», — цытуе Меркіса БелаПАН.

Напрыканцы XIX стагоддзя Гомель перажываў прамысловы ўздым у сувязі з будаўніцтвам Лібава-Роменскай чыгункі. Гістарычна гэтая частка ў цэнтры горада мела назву Свісток. На той час гэта быў элітны добра сплнаваны раён, у якім сялілася гарадская эліта: чыноўнікі, афіцэры, прадпрымальнікі і, мяркуючы па назве, паліцэйскія чыны. Забудова за невялікім выняткам была драўляная. Аконныя праёмы, карнізы, ганкі дамоў былі ўпрыгожаныя высокамастацкай разьбой. Адмысловцы падкрэсліваюць, што гэтае аздабленне — характэрная з'ява менавіта паўднёва-ўсходняй Гомельшчыны.

▸ ГЕАПАЛІТЫКА

# БЕЛАРУСЬ ЧАКАЕ «ЭЛЕГАНТНАЯ КАЛАНІЗАЦЫЯ»

**Інтэграцыя на Еўразійскім кантыненце — адзін з прыярытэтных кірункаў Крамля. Гэта было акрэслена яшчэ ўвосень 2011 года. Тады прэм'ер-міністр Уладзімір Пуцін заявіў, што мае намер вярнуцца на пасаду прэзідэнта, у расійскай газеце «Известия» быў апублікаваны праграмны артыкул яго бачання Еўразійскага саюза. Пра тое, якія пагрозы нясе гэты саюз, аглядальнік Раман Якаўлеўскі распавядае журналістцы Вользе Хвоін.**




«Мы прапануем стварэнне магутнага наднацыянальнага аб'яднання, здольнага стаць адным з полюсаў сучаснага свету, і пры гэтым адыгрываць ролю эфектыўнай «звязкі» паміж Еўропай і дынамічным Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёнам», — гаварылася ў артыкуле Пуціна ў газеце «Известия» ў кастрычніку 2011 года. Цяпер, калі Уладзімір Пуцін зноў стаў прэзідэнтам Расіі, аналітычная супольнасць Беларусі чакае больш інтэнсіўнай дынамікі інтэграцыйных працэсаў на постсавецкай прасторы.

— Гэты працэс я назваю элегантнай каланізацыяй, — гаворыць Раман Якаўлеўскі пра інтэграцыю ў межах Еўразійскага саюза. — Усё самае смачнае з беларускай маёмасці расіяне забіраюць сабе, а сацыяльная нагрузка, пенсіянеры застаюцца мясцовай уладзе. І калі Лукашэнка падчас апошняга звароту да народа і парламента гаворыць, што ў Пуціна няма рэсурсаў давіць Беларусь, то ўспрымаецца гэта акурат наадварот. («Ні ў Расіі, ні ў Пуціна няма рэсурсаў для таго, каб задушыць Беларусь. Памыляюцца тыя, хто лічыць, што Уладзімір Пуцін пасля абрання на пасаду прэзідэнта РФ пачне душыць Беларусь. Папершае, для гэтага ў Пуціна няма рэсурсаў; па-другое, гэта сабе на шкоду. І Расія ніколі на гэта не пойдзе», — сказаў Лукашэнка, адказваючы 8 мая на пытанні дэпутатаў парламента — аўт.). Пра які рэсурс ціску можна гаварыць, калі мы — брацкія народы? Відавочна, што гэта праява страху. Ёсць вялікая рызыка, што абяцанні, якія беларускае кіраўніцтва раздае народу, выканаць не атрымаецца, бо ва ўлады не хапае рэсурсу.

Палітыка інтэграцыі ў межах Еўразійскага саюза будзе дынамічная. Гэта відавочна, інакш бы Пуцін не быў Пуціным. Трэба чакаць экспансіі расійскага капіталу ў Беларусі, гэта непазбежна, бо такая логіка расійскага капіталізму. Думаю, яркім прыкладам гэтай экспансіі мусіць стаць хмарачос "Газпрама" на месцы аўтавакзала «Маскоўскі», што вельмі сімвалічна. Гэты будынак, які па задуме мусіць узняцца вышэй праекту Лукашэнкі — Нацыянальнай бібліятэкі і падкрэсліць, хто тут гаспадар.

***— Ёсць меркаванне, што Еўропа стамілася ад Лукашэнкі і гатовая спыніць сваю барацьбу за ўплыў на Беларусь. І ўжо праз Расію рэалізоўваць тут нейкія праекты...***

— Такое меркаванне мае месца, але, на мой погляд, яно спрошчанае. Значна больш спадзяванняў у мінскіх стратэгаў звязана з выбарамі ў Францыі, бо ёсць верагоднасць аслаблення еўрапейскіх інстытутаў. Што ў сваю чаргу пацягне аслабленне ўвагі да Беларусі. Дарэчы, звярніце ўвагу на апошнюю заяву прадстаўніцы Еўрапейскага саюза ў Беларусі Майры Моры, што змястоўны дыялог з беларускімі ўладамі магчымы толькі пасля вызвалення і рэабілітацыі палітвязняў. І вось гэты пункт — рэабілітацыя — для Лукашэнкі абсалютна не прымальны. Зазважце, у нас такі дыпламатычны канфлікт з Еўропай, а гандлёвы абарот з ЕС расце. Атрымліваецца, палітыка санкцый нам не перашкаджала, бо фактычна яна ніколі і не рэалізоўвалася.

Яшчэ звярнуў бы ўвагу на цікавы момант еўрапейскіх дачыненняў: была інфармацыя, што Кадафі даваў Сарказі грошы. Ёсць верагоднасць, што Сарказі можа стаць аб'ектам нейкага судовага разбіральніцтва, у тым ліку і звязанага з Лівіяй. І калі такі суд адбудзецца, то яму будуць цікавы людзі, якія шмат ведаюць пра былога лівійскага лідара.

***— Апошнія падзеі ў Маскве перад інаўгурацыяй Уладзіміра Пуціна — ці азначаюць яны, што Расія наблізілася да Беларусі паводле стаўлення да апанентаў?***

— Аналагам гэта назваць нельга. Там адбываюцца складаныя працэсы, нарастае пратэстны электарат, з'яўляюцца новыя формы пратэсту. Нельга гаварыць, што гэта падобна да нашай сітуацыі. Як бы ні было, але ў іх ёсць апазіцыя ў Дзяржудуме, апаненты адкрыта крытыкуюць прэзідэнта, і за гэта іх масава не садзяць у турмы. Несістэмная апазіцыя хіба што трапляе пад адміністратыўны арышт. Але такіх брутальных рэпрэсій, як былі пасля 19 снежня 2010 года ў Мінску, там няма. Ходзіць такі жарт: і там, і тут ёсць вертыкаль. Але, калі ў Беларусі вертыкаль выбудаваная, то ў Расія яна не стаіць. Прагнулася крыху. Нельга сказаць, што Пуцін безуладны, але ў Расіі цяпер ідуць працэсы ў працяг выступленняў апазіцыі мінулага года. А якія працэсы ў беларускай апазіцыі ідуць у працяг пратэсту 2010 года?

***

У Расіі нямала прыхільнікаў ідэі «збору прылеглых зямель». Так, расійскі філосаф, палітолаг Аляксандр Дугін выступае за стварэнне еўразійскай звышдзяржавы праз інтэграцыю Расіі з былымі савецкімі рэспублікамі, і ў першую чаргу рускамоўнымі тэрыторыямі за межамі Расійскай Федэрацыі.

«У стварэнні Еўразійскага саюза найважнейшую ролю адыгрывае прынцып цывілізацыі. І тут мы ўшчыльную падыходзім да філасофіі еўразійства, якая і з'яўляецца ідэйным асяроддзем, што і падрыхтавала праект Еўразійскага саюза. Згодна з гэтай філасофіяй, Расія гістарычна была не проста еўрапейскай або азіяцкай краінай (або гібрыдам таго і іншага), але цалкам самастойнай цывілізацыяй. Межы гэтага еўразійскага «культурнага кола» зусім не вычэрпваюцца штучнымі межамі Расійскай Федэрацыі, але ўключаюць у сябе практычна ўсю постсавецкую прастору, якая прадстаўляе сабой адзінае цэлае», — піша Аляксандр Дугін.

▸ ІНТЭГРАЦЫЯ

# НАЙВЫШЭЙШУЮ КАШТОЎНАСЦЬ НЕ ТАК РАЗУМЕЮЦЬ

Вольга ХВОІН

**Беларусь некалькі разоў атрымлівала прапановы ўвайсці ў склад Расійскай Федэрацыі. І, хаця беларускі лідар як мага далей імкнецца адцягнуць падзенне ў расійскія абдымкі, у структурах дзяржапарата працуюць людзі, якія папросту не бачаць будучыні Беларусі без Расіі. А заявы Лукашэнкі пра найвышэйшую каштоўнасць — незалежнасць, прапануюць асэнсоўваць інакш.**

«Ціск з боку Расіі ўсё ж такі будзе, хай і ў эвалюцыйным выглядзе, — агучвае свой прагноз інтэграцыйных працэсаў доктар філасофскіх навук, прафесар, намеснік дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Леў Крыштаповіч. — Але гэта логіка дэзінтэграцыі. Мы ж цяпер гаворым пра новы перыяд развіцця постсавецкіх рэспублік. А размовы пра ціск — гэта з мінулага. Наконт беларускай мадэлі, слынных нафтавых афшораў — мы можам разглядаць нашу эканоміку толькі як асколак вялікай эканомікі, і з гэтага пункту гаварыць пра нашу эканамічную мадэль як незалежную немагчыма. Гэта няслушна. Ніводная маленькая краіна не развіваецца самастойна. Таму наша мадэль — гэта найперш інтэграцыя. Што тычыцца нашай вышэйшай каштоўнасці, са слоў Аляксандра Лукашэнкі, — незалежнасці, то прэзідэнт таксама трэба правільна разумець. Мяркую, гэта не супярэчыць інтэграцыі з Расіяй».

Каментаваць поспех такіх малых краін, як Тайвань і Сінгапур, спадар Крыштаповіч адмовіўся. Варта нагадаць, што ў еўрапейскіх маштабах Беларусь — вялікая краіна, а многія паспяховыя краіны ЕС істотна саступаюць у тэрытарыяльных маштабах Беларусі.

Яшчэ адно цікавае меркаванне наконт мэтазгоднасці інтэграцыі з Расіяй для беларускай эканомікі выказвае старшыня арганізацыйнага камітэта па стварэнні РГА «Еўразійскі народны саюз» Юрый Баранчук: «Калі краіна не можа прадаваць свае тавары, то сферы ўплыву сціскаюцца. Адпаведна, кожная краіна зацікаўленая ў заваёве новых рынкаў. Калі паглядзець гісторыю некаторых краін, якія пасля вайны рэзка паднялі сваю эканоміку, то яны на некаторы час увогуле зачыняліся ад астатняга свету, развівалі ў сябе вытворчасці. І, на мой погляд, у кіраўніцтва Беларусі, Расіі, Казахстана ёсць падобная дамова — развіць унутраныя рынкі, а потым пачаць экспансію на трэціх рынках. Мяркую, што ў перспектыве можна чакаць аб'яднання рынкаў ЕС і Еўразійскага саюза».

Малады палітолаг Яўген Прэйгерман падзяляўся сваімі назіраннямі, як расіяне, у тым ліку навукоўцы, успрымаюць ідэю інтэграцыі ў рамках Еўразійскага саюза:

«Нядаўна быў у Маскве на прадстаўнічым мерапрыемстве. І там злавіў сябе на думцы: мы бычцам бы «брацкія дзяржавы», але насамрэч мы не блізкія адзін аднаму. Светаўспрыманне ў мяне і ў калег з Расіі абсалютна рознае, я проста быў здзіўлены, што людзі так могуць мысліць. Часта гучыць фраза: "Я не ведаю, як гэта патлумачыць, але адчуваю, што нам трэба аб'ядноўвацца". Людзі заканчваюць аспірантуры, і некаторыя рэчы ад іх на ўзроўні аналізу дзіўна чуць. Напрыклад, «у Беларусі ўсё так добра, бо проста добра. Я праязджаў і бачыў». Або такі варыянт: «Пра што вы там разважаеце? Якая Еўропа?», то бок альтэрнатывы Еўразійскаму саюзу для інтэграцыі Беларусі папросту не бачаць і не разумеюць, у чым праблема. Прафесар Маскоўскага дзяржаўнага інстытута міжнародных адносін просіць прывесці прыклад пазітыўных дзяржаўных трансфармацый. Гавару пра Польшчу, а яна мне адказвае: "Я была ў Лодзі і бачыла, як бяздомным людзям раздавалі ежу». І я думаю: ці з інстытутам нешта не тое, ці са светабачаннем», — рэзюмуе Прэйгерман.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# НІХТО НА ВУЛІЧНЫЯ МАРШЫ НЕ ВЫХОДЗІЦЬ

Вольга ХВОІН

**На прадпрыемстве «Граніт» у горадзе Мікашэвічы (Брэсцкая вобласць) 430 рабочых падалі заявы на звальненне з прычыны нізкіх заробкаў. Калі гэтая інфармацыя стала галоснай, то нехта нават параўнаў сітуацыю з Польшчай часоў «Салідарнасці» ды выказаў спадзеў на тое, што «з Мікашэвічаў усё пачнецца». Аднак высветлілася, што ўсё значна больш празаічна.**

Рабочых не задавальняюць заробкі ў 200–400 долараў, людзі пачалі шукаць сабе новыя месцы працы ды пісаць заявы на звальненне. Прычым з пачатку года заробак быццам бы нават паменшыўся. «У студзені мне толькі чатыры чалавекі сказалі, што атрымалі калі шасці мільёнаў. У сакавіку называлі суму ў чатыры мільёны», — таму людзі, якія працуюць у цяжкіх умовах горназдабываючай прамысловасці, і шукаюць больш прыбытковыя месцы.

Кіраўніцтва «Граніту» звальняць людзей адмаўляецца ды патрабуе ад іх месячнай адпрацоўкі. Некаторыя, па словах лідара мясцовай суполкі Беларускага незалежнага прафсаюза Алега Стахаевіча, нават ідуць на прагулы ды адкрыты канфлікт з кіраўніцтвам.

Больш таго, адміністрацыя прадпрыемства «Граніт» абвяргае інфармацыю аб масавым звальненні працоўных. «Гэтую інфармацыю мы не пацвярджаем катэгарычна», — заявіла выконваючая абавязкі намесніка гендырэктара Маргарыта Сераокая.



Алег Стахаевіч

«Гэты факт дакладна мае месца. Гарадок невялікі, мы ведаем адзін аднаго. Інфармацыя пра звальненні ходзіць ужо месяц. А лічба ў 430 чалавек, па нашых звестках, была агучаная на апошняй планёрцы, — распавядае прафсаюзны лідар Алег Стахаевіч. — Але адміністрацыя ніяк не ідзе на ўрэгуляванне канфлікту, яны скачуць пад дудку зверху. Што ім сказалі, тое і робяць».

Спадар Алег (яго, да слова, звольнілі з прадпрыемства на пачатку года) распавядае, што людзі згодныя нават быць звольненымі за прагулы. «Адзін рабочы напісаў заяву на звальненне, яе не задаволілі. Тады чалавек папросту не выйшаў на працу ды папрасіў звольніць яго за прагул. Сказалі, што ніякага прагула не было, але кожны дзень пачалі правяраць на алкатэстэры, потым нават завезлі ў бальніцу ды прымусілі здаць кроў на аналіз наяўнасці алкаголю. Гэтыя падвозіны вывелі чалавека з сябе, ён пайшоў у бухгалтэрыю ды матам запатрабаваў звальняць яго за п'янку, калі такая справа. Іншы чалавек знайшоў у Мінску працу дальнабойніка з заробкам у 1,5 тысячы еўра. Яго таксама звальняць не хочуць, а вакантнае месца не будзе чакаць працяглы тэрмін. У снежні мінулага года кіраўніцтва казала, што палова раёна на чарзе стаіць, каб уладкавацца на «Граніт» працаваць. Калі б гэта было праўда, то падпісалі заявы на звальненне без праблем», — распавядае пра канфлікты рабочых з працадаўцам Стахаевіч.

З Мінску інфармацыя пра пратэсты суровых мужыкоў, што працуюць у кар'ерах Мікашэвічаў на здабычы граніту, выглядае даволі ўнушальна. Але насамрэч размах гэтага супраціву значна меншы. Ніхто тысячамі на вулічныя маршы не выходзіць, масавыя публічныя сходы з ультыматыўнымі патрабаваннямі не ладзіць. Нават колькасць тых, хто хоча звольніцца, становіцца вядомай з планёркі кіраўніцтва. Выглядае, што беларусам да еднасці яшчэ расці і расці — пакуль гэта выступы адзіночак.

«На нас кінулі ўсю рэпрэсіўную машыну, — тлумачыць разрозненасць рабочых Стахаевіч. — Пасля нашай заявы аб намеры стварыць на прадпрыемстве незалежны прафсаюз змянілі правілы ўнутранага распарадку, прапускную сістэму. Я не магу прыехаць на «Граніт» ды зладзіць там сустрэчу. Не могуць сабрацца масава і тыя, хто там працуе». Пытаюся, што перашкаджае людзям зладзіць сход пасля працоўнага дня хоць бы ў якім парку ці на прыватным падворку? «Мы збіраемся па некалькі дзясяткаў чалавек, гэта ёсць. Але людзей масава запалохалі. І цяпер нашая праца скіраваная на тое, каб паказаць, што не ўсё так страшна, як можа падацца. Я за гэты час даведаўся, што такое беларус. Падыходзіць рабочы і расказвае, як яго «прэсавалі». Аказваецца, пазваніў начальнік ды пытаўся, як яго справы. Парадавацца трэба, што начальства вырашыла пацікавіцца тваімі справамі, а не думаць адразу ж пра прэсінг».

Кіраўнік Беларускага незалежнага прафсаюза Мікалай Зімін таксама пацвярджае, што сітуацыя на «Граніце» мае лакальны характар. «Папросту гэтай праблемы раней ніхто востра не ўздымаў, а цяпер пачалі адстойваць свае правы на годны заробак. Кіраўніцтва іншых прадпрыемстваў, дзе ёсць нашы зарэгістраваныя суполкі, больш-менш знаходзіць паразуменне з работнікамі. На «Граніце» суполка на стадыі рэгістрацыі, нам складана працаваць з кіраўніцтвам, бо для нас там няма вызначаных прававых нормаў узаемаадносінаў. Кіраўніцтва «Граніту» гаворыць, што калі арганізацыя незарэгістраваная, то і слухаць нас няма чаго. Хаця на ўзроўні дамоўленасцяў можна было б нешта вырашыць, каб праблема не набывала такога маштабу, — гаворыць кіраўнік Беларускага незалежнага прафсаюзу, дадае, што хацелася б цвярозасці і палюбоўнай дамовы: — Мы б не хацелі, каб гэты канфлікт выліваўся ў супрацьстаянне з наймальнікам. Кіраўніцтва мусіць бачыць у нас партнёраў, але не праціўнікаў. Мы спадзяёмся на цвярозы розум. Мяркую, гэты выпадак больш празаічны, чым гэта каму падаецца».

Беларускі незалежны прафсаюз спрабаваў зладзіць на Першамай мітынг у Мікашэвічах з падтрымкай мясцовых актывістаў, рабочых. Але гарвыканкам такой дамовы не даў, цяпер ідуць разборкі яшчэ і з-за гэтай забароны. «А многія былі гатовыя прыехаць і падтрымаць рабочых з «Граніту» публічна», — падсумоўвае няспраўджаныя планы Мікалай Зімін.

Што тычыцца афіцыйнага прафсаюзу, які за малаэфектыўную працу на пачатку года крытыкаваў кіраўнік Брэсцкай вобласці Канстанцін Сумар, то, па словах Алега Стахаевіча, сваёй дзейнасці на прадпрыемстве прафсаюз не змяніў. Хіба што «больш актыўна сталі раздаваць пуцёўкі і падарункі».

У снежні 2011 года каля 600 работнікаў РУВП «Граніт» пакінулі прафсаюзную арганізацыю свайго прадпрыемства з-за таго, што былі незадаволеная працай прафкама, нізкай зарплатай, хамскім стаўленнем адміністрацыі. Супрацоўнікі прадпрыемства звярнуліся ў незалежны прафсаюз.

«Граніт» займаецца здабычай і перапрацоўкай горных парод. На прадпрыемстве працуюць каля трох тысяч чалавек.

ДОНАРСТВА

# КРЫВЁЙ ЗА ЖЫЦЦЁ

Мікіта БРОЎКА

**Усё больш збяднелых ад крызісу беларусаў пачалі зарабляць на ўласнай крыві. З большага гэта студэнты і беспрацоўныя, але хапае і донараў са стажам.**

Валер — студэнт-завочнік БДУ. Знайсці годную працу васямнаццацігадоваму юнаку, які толькі скончыў школу, апынулася не так лёгка. Заробкі ў некваліфікаваных працаўнікоў не надта высокія. Нават пракарміцца за такія грошы нялёгка.

«Я працаваў кіроўцам у «Мінсксанаўтатрансе» — дзяржаўнай арганізацыі, якая абслугоўвае ўстановы аховы здароўя, — расказвае Валер. — Спачатку ўсё было нармальна. Але калі я вырашыў звольніцца, бо з'явіўся лепшы варыянт, высветлілася, што ўжо тыдзень таму кіраўнік аўтакалоны пачаў рыхтаваць дакументы на звальненне па артыкуле. Я быццам бы тыдзень не з'яўляўся на працы. Падчас разліку высветлілася, што мая машына спажывала значна больш паліва, чым гэта вызначана нормай. З тых 300 тысяч, што мне заплацілі за месяц працы з 9 ранку да 6 вечара з двума выхаднымі, яшчэ каля 120 вылічылі за перавыдатак паліва.

Здача крыві для Валера зараз — вымушаны дадатковы заробак. Пасля пачатку крызісу ад жадаючых стаць донарам не адбіцца. Валер, напрыклад, змог патрапіць на здачу толькі праз два месяцы пасля запісу.

Дзень донара пачынаецца з самага ранку. Усе працэдуры разам з дарогай займаюць каля шасці гадзін. Садзімся ў тралейбус. Кандуктару Валер паказвае студэнцкі — тое, што ён вучыцца на завочным, напісана на адваротным баку дакумента, і кандуктар гэтай дэталі не заўважае.

Перш за ўсё едзем у паліклініку. Тут трэба ўзяць выпіску з медыцынскай карткі аб тым, што за апошні месяц донар не хварэў. Пасля атрымання паперы накіроўваемся ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр трансфузіялогіі і медыцынскіх біятэхналогій, што месціцца ў Навінках. Здаць кроў і яе кампаненты ў Мінску і Мінскім раёне можна ў шасці месцах. Кроў прымаюць паўсюль, а вось яе кампаненты — не.

Цэнтр досыць сучасны. На ўваходзе дзяжурыць супрацоўнік Дэпартамента аховы МУС. На першым паверсе — буфет і касы, на другім — кабінеты лекараў, а на трэцім у донараў прымаюць кроў і яе кампаненты.

Перад здачай крыві патрэбна прайсці шэраг лекараў. Заўзятых аматараў алкаголю і наркотыкаў тут няма — здароўе донара дасканала правяраецца. Спіс пастаянных супрацьпаказанняў да донарства змяшчае 36 пунктаў. Яшчэ 11 пунктаў — часовыя супрацьпаказанні. Сярод іх ёсць і стан пасля аперацый і хвароб, а ёсць і незвычайныя — калі вы больш за два месяцы былі ў замежнай камандзіроўцы, давядзецца яшчэ два месяцы пачакаць, пакуль можна будзе здаць кроў. За двое сутак да здачы нельга ўжываць алкаголь, за суткі — есці тлустую, смажаную, вэнджаную і вострую ежу, а за тры гадзіны — паліць.

Звычайная здача крыві каштуе 318 тысяч. Студэнты дзённай формы навучання атрымліваюць яшчэ 71 000 рублёў. За здачу кампанентаў крыві прадугледжаны яшчэ большыя даплаты. Выдаецца і талон на харчаванне. Ён разлічаны на 14 тысяч рублёў. За іх донар атрымлівае дзве шакаладкі «Спартак», пачак печыва, два пакецікі цукру і пакецік з гарбатай. Талон можна памяняць на грошы, але звычайна так ніхто не робіць.

Здаючы кроў пастаянна, можна здабыць дадатковую выгоду — пасля саракавой у жыцці здачы крыві донара ўзнагароджваюць знакам «Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь». Праўда, шэрагу льгот ганаровых донараў пазбавілі яшчэ ў 2007 годзе. Але нешта засталося: права на пазачарговае абслугоўванне ў дзяржаўных установах аховы здароўя, прадастаўленне працоўнага адпачынку ў зручны час ды іншае. А па выхадзе на пенсію ганаровыя донары Беларусі, БССР і СССР атрымліваюць да яе надбаўку — 40% ад мінімальнай пенсіі па ўзросце.



Фота аўтара

Праеўшы талон, мы ідзем на трэці паверх — кроў прымаюць менавіта там. Дачакаўшыся сваёй чаргі, заходзім у донарскі зал. Тут — шэраг крэслаў, як у стаматалагічным кабінеце. Яны дазваляюць перавесці донара ў напаўляжачы стан — гэта робіцца для таго, каб выраўняць ціск. Працэс здачы ідзе каля пяці хвілін — за гэты час у кантэйнер паспявае набрацца 450 грамаў крыві. Потым яго запайваюць, а рэшту крыві з трубкі зліваюць у прабірку. Пракол туга бінтуюць, і донару ўжо можна ўставаць.

Зняць бінт можна будзе праз некалькі гадзін. Пасля здачы абавязкова трэба адпачыць паўгадзіны ў залі чакання, дзе можна паглядзець тэлевізар — пасля здачы ў донара падае ціск, і, калі рабіць рэзкія рухі, можна страціць прытомнасць.

У наступны раз Валер вернецца сюды прыкладна праз два месяцы — калі яму дазволяць здаваць плазму. У адваротным выпадку — у пачатку жніўня, каб здаць кроў. Фактычна, два месяцы пройдуць, пакуль у арганізме цалкам адновіцца аб'ём крыві, і два месяцы — у чаканні чаргі.

У параўнанні з дакрызіснымі коштамі, зараз за адну здачу донару плацяць прыкладна на 10 долараў больш, чым раней.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Наталля Ільініч: Я НЕ МАГЛА НЕ ВЫЖЫЦЬ…

**Пра звальненне настаўніцы гісторыі вышэйшай катэгорыі Талькаўскай сярэдняй школы Пухавіцкага раёна Наталлі Ільініч шмат пісалі недзяржаўныя СМІ. Пасля заканчэння гістфаку БДУ настаўніца больш за 25 гадоў адпрацавала ў школе, дзе стварыла краязнаўчы гурток і сайт talka.info, выдала кнігу «Талька і наваколлі», вывучае падзеі нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 года ў Ігуменскім павеце, штогод праводзіць Талькаўскі фэст, які любяць школьнікі і добра ведае грамадскасць. Сярод выхаванцаў Ільініч — сацыёлагі, гісторыкі, фалькларысты і музеязнаўцы. На пачатку мінулага года настаўніца была звольнена за сваю актыўную грамадзянскую пазіцыю, якая праявілася і падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў. Нягледзячы на ганенні, Ільініч змагла захаваць гонар і застацца ў прафесіі. Пра ўсё гэта Наталля Ільініч распавяла журналісту НЧ Марату Гаравому.**



Фота «Народная Воля»

Наталля Ільініч

## Механізм працуе без збояў

— Працу сваю я люблю, і да сённяшняга дня ўспрымаю звальненне як вялікае няшчасце. Цэлы год я спрабавала ўладкавацца на настаўніцкую працу, пакуль урэшце не зразумела, што ў сённяшніх умовах шлях у школу для мяне зачынены. Я пераканалася на ўласным досведзе, што механізм выштурхоўвання непажаданых працуе ў краіне без збояў. А калі які збой і адбываецца, дык хутка выпраўляецца. Гэты механізм працуе на тое, каб зламаць і знішчыць тых, хто наважыўся ўзняць галаву, запалохаць астатніх, зрабіць іх маўклівымі сведкамі. А бывае — і саўдзельнікамі ганенняў.

## Дапамажыце іншым

— Пасля звальнення я апынулася ў цяжкім стане: захварэла, выхаду не было відаць. Мой свет перакуліўся. Трэба было пачынаць усё з пачатку, а сіл не было. Выратавала мяне людская дапамога. Мне пашанцавала, што сваім добрым таленавітым словам пра звальненне напісала Марыя Эйсмант у «Народнай Волі», а таксама распавялі журналісты іншых недзяржаўных СМІ, у тым ліку БелаПАН, «Нашай Нівы» і Радыё Свабода.

Калега са Слуцку Зінаіда Цімошык звярнулася да чытачоў з прапановай дапамагчы чалавеку ў бядзе, сама прыехала са сваімі сябрамі на мой суд у Мар'іну Горку, першая даслала грашовы перавод.

Дзясяткі знаёмых і зусім не знаёмых працягнулі руку — мне тэлефанавалі, пісалі лісты, паштоўкі, дасылалі грошы і бандэролі. Немагчыма назваць усе прозвішчы добрых людзей: адных пераводаў я атрымала каля 170! Я да сённяшняга дня працягваю разважаць над гэтым феноменам. Чаму гэтыя людзі так зрабілі? Я чытала, што ў Польшчы, калі быў арыштаваны электрык Лех Валэнса, палякі літаральна завалілі дапамогай яго шматдзетную сям'ю. Але ж я добра ведала, што беларусы — не палякі, а вясковая настаўніца зусім не падобная да лідара польскай «Салідарнасці». Таму маштаб дапамогі суайчыннікаў уразіў мяне.

Што кіравала гэтымі людзьмі, калі яны ўзняліся і рушылі на пошту даслаць ліст ці перавод незнаёмаму? Людзей абурыла несправядлівасць і беззаконне, учыненыя чыноўнікамі? Яны разумеюць, што з кожным можа адбыцца такая расправа, і на месцы звольненай «у сувязі з заканчэннем кантракта» можа апынуцца любы з іх? Людзі падзяляюць мае каштоўнасці, маю справу па адстойванню прафесійных і чалавечых правоў ды годнасці?

Я ўбачыла, што не адзінокая, што шмат людзей падтрымліваюць мяне. Гэтая хваля салідарнасці пацвердзіла, што я маю рацыю і беларусы вартыя лепшага жыцця. Падтрымка людзей паказала, што ў Беларусі зараджаецца грамадзянская супольнасць, а гэта дае надзею на лепшае.

Аказалася, што ў нас ёсць шмат дзейных грамадскіх арганізацый і ініцыятываў, ёсць і Партыя БНФ, якая можа не толькі дзяліцца на часткі, але і дапамагаць выгнаным. Некалькі сяброў гэтай партыі і Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ у цяжкія часы нават прыязджалі да мяне дамоў, каб падтрымаць. Таварыства беларускай школы хадайнічала ў судзе, а намеснік старшыні ТБШ Тамара Мацкевіч не прапусціла ніводнага судовага пасяджэння, каб падтрымаць мяне. А колькі было радасці, калі ТБШ дапамагло мне не згубіцца прафесійна і прапанавала рэдагаваць настаўніцкі метадычны сайт!

Ніхто, да каго я звярталася, не адмовіў у дапамозе. А большасць грамадскіх актывістаў прыйшлі самі, не чакаючы просьбаў. Юрыдычнай кансультацыяй, парадай, адвакатам і падтрымкай у судах дапамаглі такія грамадскія структуры, як праваабарончы цэнтр «Вясна», грамадзянская кампанія «Наш Дом» і камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць».

> Мне не сорамна перад сваімі вучнямі і сябрамі — а гэта дарагое пачуццё. А тым калегам, хто не адчувае сябе камфортна ў сённяшняй нашай айчыннай школе, хачу сказаць: не бойцеся!

Я выжыла і таму, што перад вачыма быў прыклад людзей, якім было цяжэй, чым мне. У турмах сядзяць ні ў чым не вінаватыя, найлепшыя сыны беларускай нацыі. Яны пазбаўлены волі, церпяць здзекі, катаванні, іх могуць нават знішчыць фізічна. Гледзячы на гэтае беззаконне і пакуты, бачыш, што твая праблема нашмат менш балючая.

## Не бойцеся

— Цэлы год я хадзіла па зачараваным коле — усё шукала працу ў школе. У Мінску, Асіповічах. Думалася, а раптам які-небудзь дырэктар не пабаіцца ды насуперак загаду зверху возьме мяне на стаўніцай гісторыі? Я ж не самая горшая настаўніца і змагу даказаць гэта сваёй працай. Дарэмныя спадзяванні. Толькі 12 студзеня 2012 года я спыніла безвыніковыя пошукі і зарэгістравалася рэпетытарам у падатковай інспекцыі. Дала абвесткі — і хутка знайшліся вучні. Цяпер я зарабляю на хлеб «дарэктарствам»: хаджу па вучнях, якім трэба мая дапамога, праводжу ўрокі ў іх дома. Мне падабаецца. Тут вынік залежыць ад твайго майстэрства і любові да дзяцей, а не ад умення спрытна складаць паперы, патрэбныя начальству.

Як вольны чалавек я змагла прыняць удзел у навучальных праграмах за мяжой — раней мяне не адпускалі са школы. Стажыроўка па тэме «Эфектыўныя метады выкладання і ацэнкі» ў Варшаве была вельмі карыснай і дапамагае ў маёй настаўніцкай працы. Шкадую, што не распачала гэта адразу пасля звальнення, баялася ўзяць уласны лёс у свае рукі, прывыкла ўсё жыццё хадзіць у стройных шэрагах. Баялася, што не змагу знайсці вучняў, пагатоў, у маёй вёсцы такой працы няма, а трэба ездзіць на электрычцы і шукаць у горадзе.

Дзякуй Богу, усё наладжваецца, цяпер я ўжо ўпэўнена, што не загіну і сваёй настаўніцкай працай змагу зарабіць сабе на хлеб.

## Не маўчыце

— Нехта, даведаўшыся пра маю гісторыю, зробіць выснову: не, сёння настаўнік не зможа абараніць свае правы. Глыбей уцягне галаву ў плечы і пойдзе рабіць тое, што патрабуе начальства. «Я не хачу страціць працу, а значыць, кавалак хлеба для сваіх дзяцей, не хачу парваць свае нервы і здароўе, б'ючыся галавой аб каменную сцяну, не хачу стаць адрынутым у грамадстве», — думае мой калега. І ў гэтым, вядома, ёсць жудасная логіка сённяшняга беларускага жыцця, логіка прыстасаванства.

Аналізуючы падзеі, што адбыліся са мною на працягу апошніх двух гадоў, я не жадаю такіх выпрабаванняў нікому з добрых людзей. Я не адчуваю сябе пераможцам. Але з упэўненасцю магу сказаць, што, калі б усё вярнулася назад, усё б зрабіла так, як зрабіла. Улічыла б памылкі, але прынцыповыя крокі засталіся б ранейшымі. Мне не сорамна перад сваімі вучнямі і сябрамі — а гэта дарагое пачуццё. А тым калегам, хто не адчувае сябе камфортна ў сённяшняй нашай айчыннай школе, хачу сказаць: не бойцеся!

Я зразумела, што выйдзем мы з гэтай загнанай сітуацыі, калі перастанем баяцца крыўдзіцеляў. Я сама больш за ўсё баялася, што мы з дачкой не будзем мець грошай на хлеб, заплаціць за тэлефон і электрычнасць, набыць дровы. Усё жыццё прапрацаваўшы ў адной дзяржаўнай школе, вясковы чалавек, мала прыстасаваны да рынкавых умоваў, не маючы ніякіх «блатаў» і знаёмстваў, — я змагла выжыць і пачаць усё спачатку.

Дапамажыце таму, хто пакутуе. Большасць настаўнікаў маўчаць і церпяць беззаконне, бо не ўпэўненыя, ці змогуць выжыць, калі будуць выгнаныя са сваёй працы, ці дапамога ім хто, ці падтрымае. Салідарнасць — гэта самае важнае для нас сёння. Мы пераможам, калі падтрымаем тых, хто трапіў у жорны сістэмы. А наступныя — тыя, хто ўздыме галаву, — лягчэй перамогуць свой страх і прыстасаванства, калі будуць ведаць, што іх не кінуць добрыя людзі. Не мной сказана: для таго, каб зло перамагала, дастаткова, каб добрыя людзі нічога не рабілі.

Не маўчыце, калі вас ганяць. Мне дапамаглі людзі яшчэ і таму, што справа атрымала розгалас дзякуючы СМІ. Людзі даведаліся пра маю бяду, таму і пранікліся гэтай праблемай. Чыноўнікі таксама баяцца розгаласу сваіх непрыгожых учынкаў. Некаторыя нават спыняюцца ад галоснасці, праўда, могуць рабіць паскудствы таемна, чужымі рукамі. І пра гэта трэба казаць. Пра парушэнне правоў вельмі важна не маўчаць. Дзякуй Богу, што ў Беларусі яшчэ ёсць вольныя СМІ і праваабарончыя арганізацыі. У настаўнікаў ёсць свой сайт nastaunik.info, які чуйна адлюстроўвае ўсё, што адбываецца ў школьнай сістэме, у тым ліку — і факты парушэння нашых правоў.

Толькі ад нас саміх залежыць, якой будзе наша школа і наша Беларусь. Гэта толькі здаецца, што ад аднаго чалавека нічога не залежыць. Але ж усе справы пачынаюцца з першага кроку».

# ТэлеТыдзень

TV

## 14 мая, панядзелак



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Тэлефільм «Берасцейскі арыенцір – да зорак» цыклу «Зямля беларуская».
**11.00** Камедыйны серыял «Сваты».
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дак. цыкл «Сваты. Жыццё без грыму».
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дзённік «Еўрабачання».
**15.40** «Пра каханне…». Дак. фільм.
**16.10** Серыял «Ціхі цэнтр». 1-я серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Арэна.
**18.45, 23.50** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дзённік «Еўрабачання».
**21.55** Форум.
**22.55** Драматычны серыял «Абдуры мяне».
**00.15** Дзень спорту.
**00.30** Серыял «Ціхі цэнтр». 1-я серыя.



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць выдатна!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера. «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхасём Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Парасонік для маладых».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік». «Першы пасля Гітлера. Таямніца нацыста».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Гонар нацыі».
**22.20** «Першы клас».
**23.20** Вялікая вайна. «Бітва за Германію».
**00.20** «Вячэрні Ургант».
**00.50** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Гарачы лёд».
**13.05** «Далёкія сваякі».
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Вялікі горад».
**15.15** «Зорны рынг». Іна Афанасьева супраць групы «Босае сонца».
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Зязюля». Расія, 2002г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.50** «Пякельная кухня».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Кінаспробы.
**09.35** Навіны надвор'я.
**10.10** Драматычны серыял «Вар'яты» (ЗША).
**11.15** Школа рамонту.
**12.20** Бітва экстрасэнсаў.
**13.25** Альбарутэнія.
**14.00, 23.30** Серыял «Талаш». 1-я серыя.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**16.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Беларусь-Францыя. Прамая трансляцыя.
**18.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.25** Авертайм.
**19.55** Беларуская часіна.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Італія-Расія. Прамая трансляцыя. У перапынку: КЕНО.
**00.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.




**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Выява свету» з Юрыем Казіяткам.
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**12.25** «Ранішняя@пошта».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50, 16.50, 19.50, 23.10** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Сваты».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**20.30** «МУР».
**22.15** «Правілы маскараду».
**23.20** «Дзяжурны па краіне». М.Жванецкі.




**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Кулінарны паядынак.
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Руская сенсацыя».
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Прафесія - рэпарцёр».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Баявік «Псеўданім «Албанец»-4».
**21.20** Серыял «Мент у законе».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Сумленны панядзелак.
**00.20** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.



**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**05.20** «Даведнік».
**06.05** М/с «Гадкае качаня».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Ваўчыца».
**09.05** Выніковая праграма «Разам».
**10.05, 11.05** М/ф «Атрад адмыслова прызначэння».
**12.20, 22.05** Д/ф «20 гадоў разам».
**13.30** М/с «Крыштальная маска».
**13.55** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40, 02.00** «Саюзнікі».
**19.20** «Усюды жыццё».
**19.50** «Сардэчна запрашаем».
**20.30** «Беларусь сёння».
**21.30, 04.25** «Свет спорту».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».




**00.15, 02.15, 09.30** Матаспартыўны часопіс.
**00.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. 1-ы этап.
**02.00** Алімпійскія гульні.
**09.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі – 8-ы этап.
**10.30** Спартовая гімнастыка: Чэмпіянат Еўропы. Брусэль.
**11.45** Алімпійская гульні.
**12.00, 13.45, 19.15, 20.30** Тэніс: Турнір WTA. Рым. Дзень 1.
**15.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі – 9-ы этап.
**18.30** Футбол.
**19.00** Футбол: Эўра - 2012. «Зваротны адлік».
**22.00, 22.30** Пра рэстлінг.
**23.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**23.45** Футбол: Еўрагалы.




**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.40, 18.10** Зона «Свабоды».
**08.10** Басанож па свеце.
**08.35** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**08.55, 14.40** «Час гонару», серыял.
**09.40** «Згубленыя вакацыі», дак. фільм.
**11.05, 15.25** Эксперт.
**11.35** МакраФон: «Рок-карона–2010»: ч. 1.
**12.35** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**12.50** Басанож па свеце.
**13.15** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**16.00** МакраФон: «Рок-карона–2010»: ч. 2.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**17.35** Вагон.
**17.40** Навігатар.
**18.00, 19.00, 20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў).
**18.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Еўропа сёння.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.10** «Барыс Кіт. Праз церні да зораў», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**20.30** «Тэра постсаветыка. Мільянер з лесу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Прыватная калекцыя.
**21.55** Фільматэка майстроў: «Быць Джульяй», маст. фільм, 2004 г., ЗША–Брытанія–Канада–Венгрыя.
**23.40** Аб'ектыў.
**00.05** Гарачы каментар.

## 15 мая, аўторак



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія). 1-я серыя.
**10.10** Арэна.
**10.35** Культурныя людзі.
**11.05** Камедыйны серыял «Сваты».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Драматычны серыял «Абдуры мяне».
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дзённік «Еўрабачання».
**15.40** Зона камфорту.
**16.10** Серыял «Ціхі цэнтр». 2-я серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Сваты-2».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія). 1-я серыя.
**23.05** Драматычны серыял «Абдуры мяне».
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Серыял «Ціхі цэнтр». 2-я серыя.



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.05** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера. «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Лета ваўкоў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Прэм'ера. Вялікая вайна. «Вайна з Японіяй».
**00.20** «Вячэрні Ургант».
**00.50** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Кіно»: «Зязюля». Расія, 2002г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Кіно»: «13 раён: ультыматум». Францыя, 2009г.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы». Серыял.
**21.25** «Забойчая сіла 2». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Небяспечны месяц».
**23.35** «Аўтапанарама».
**00.00** «Пасажыр без багажу». Серыял. Заключная серыя.
**00.50** «Сакрэтныя тэрыторыі».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Авертайм.
**09.30** Цела чалавека.
**10.05** Серыял «Вар'яты» (ЗША). 2-я серыя.
**11.15** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Канада-Беларусь. Прамая трансляцыя.
**14.30** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**15.35** Наперад у мінулае.
**16.10** Альбарутэнія.
**16.45** Серыял «Талаш». 2-я серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Беларуская часіна.
**20.10** Хакей. Чэмпіянат свету. ЗША-Швейцарыя. Прамая трансляцыя. У перапынку: КЕНО.
**22.30** Серыял «Талаш». 2-я серыя.
**23.30** Трылер «Радыёгуткі» (ЗША).




**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.25** «Кулагін і партнёры».
**11.55** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50, 16.50, 19.50, 23.10** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Сваты».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**20.30** «МУР».
**22.15** «Правіла маскараду».
**23.20** «Адмысловы карэспандэнт».




**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Кватэрнае пытанне».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Баявік «Псеўданім «Албанец»-4».
**21.15** Серыял «Мент у законе».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Ліцейны».



**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 20.45** «Простая мова».
**05.20** Д/з «Дом з гісторыяй».
**06.05** М/с «Гадкае качаня».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Ваўчыца».
**09.05** «Агульны рынак».
**09.25** «Агульны інтарэс».
**10.05, 11.05** М/ф «Атрад адмыслова прызначэння».
**12.20, 22.05** Д/ф «20 гадоў разам».
**13.30** М/с «Крыштальная маска».
**13.55** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Шахматыст».
**21.25, 04.25** «Дыяспары».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Усюды жыццё».




**00.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. 2-і этап.
**01.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 9-ы этап.
**09.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**09.45** Футбол: Еўрагалы.
**10.15** Футбол: Эўра - 2012. «Зваротны адлік».
**10.30** Конны спорт. Агляд тыдня.
**10.45** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Дзень 1.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Дзень 2.
**15.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі – 10-ы этап.
**18.30** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Дзень 2.
**20.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.15** Лёгкая атлетыка.
**20.30** Скачкі ў ваду: Чэмпіянат Еўропы.
**22.00** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Дзень 2.
**23.45** Ралі.




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25, 19.10** Гарачы каментар.
**07.35** «Зух», камедыя, 1999 г., Польшча.
**09.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**09.25, 13.20** Еўропа сёння.
**09.55, 15.10** Навігатар.
**10.10, 13.50** «Тэра постсаветыка. Мільянер з лесу», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.35** «Барыс Кіт. Праз церні да зораў», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**10.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**11.10, 20.35** Моўнік.
**11.20, 14.40** Прыватная калекцыя.
**11.50** МакраФон: Канцэрт гурта «N.R.M.».
**12.55** «Школа на санцапёку», серыял.
**14.15** «Барыс Кіт. Праз церні да зораў», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**15 30** «Згубленыя вакацыі», дак. фільм.
**16.55** «Пуаро Агаты Крысці», серыял.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** Эксперт.
**18.40** «Валянціна і Валянцін Нагорныя», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.20** На колах.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Рэпартэр.
**20.40** Беларусы ў Польшчы.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Асабісты капітал.
**21.45** «Бландзінка», серыял: 7 серыя.
**22.30** Euromaxx.
**22.55** Жаўтуха (сатырычная праграма).
**23.25** Аб'ектыў.
**23.50** Гарачы каментар.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 16 МАЯ, СЕРАДА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія). 2-я серыя.
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Скрынка перадач.
**11.05** Камедыйны серыял «Сваты-2».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.05** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** «Здароўе». Ток-шоў.
**16.15** Серыял «Ціхі цэнтр». 3-я серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Зямельнае пытанне.
**18.45, 00.00** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**20.00** Камедыйны серыял «Сваты-2».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дзённік «Еўрабачання».
**21.55** Дэтэктыўны серыял « «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія). 2-я серыя.
**23.05** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Серыял «Ціхі цэнтр». 3-я серыя.



**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.05** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера. «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхасём Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Лета ваўкоў». Шматсер. фільм.
**22.10** «Зачыненая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Нітраты».
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Верхаводы». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Цэнтральны рэгіён».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Пасажыр без багажу». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 2». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла 2». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Мінск і мінчукі».
**23.35** «Калі ласка, скардзіцеся».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Дзіўная справа».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Цела чалавека.
**09.40** Наперад у мінулае.
**10.15** Драматычны серыял «Вар'яты».
**11.35** Жансавет.
**12.10** Бухта капітанаў.
**12.50** Біяграфічная драма «Жыццё з Джудзі Гарленд» (ЗША-Канада). 1-я і 2-я серыі.
**16.10** Альбарутэнія.
**16.45** Серыял «Талаш». 3-я серыя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**19.30** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**20.10** Тэлебарометр.
**20.15** Беларуская часіна.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Серыял «Талаш». 3-я серыя.
**22.40** Біяграфічная драма «Жыццё з Джудзі Гарленд» (ЗША-Канада). 1-я і 2-я серыі.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.25** «Кулагін і партнёры».
**11.55** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Сваты».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «МУР».
**22.15** «Правіла маскараду».
**23.10** Навіны - Беларусь.
**23.20** «Гістарычны працэс».



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Дачны адказ.
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суда».
**12.05** Суд прысяжных.
**13.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Прафесія - рэпарцёр».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Баявік «Псеўданім «Албанец»-4».
**21.15** Серыял «Мент у законе».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Ліцейны».



**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 23.00, 00.00, 01.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05, 20.45** «Кыргызтан у асобах».
**05.20** «На шашлыкі».
**06.05** М/с «Гадкае качаня».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Ваўчыца».
**09.25** «Даведнік».
**10.05, 11.05** М/ф «Атрад адмысловага прызначэння».
**12.20, 22.05** Д/ф «20 гадоў разам».
**13.30** М/с «Крыштальная маска».
**13.55** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.05** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Шахматыст».
**21.25, 04.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**00.05, 01.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Сардэчна запрашаем».



**23.45** Ралі.
**00.15** Аўта і Матаспорт.
**00.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. 3-і этап.
**01.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**02.00** Футбол: Еўрагалы.
**09.30** Аўта і Матаспорт.
**09.50** Алімпійскі часопіс.
**10.15** Лёгкая атлетыка.
**10.30, 18.30** Футбол: Эўра - 2012. «Зваротны адлік».
**10.45** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Дзень 2.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Дзень 3.
**15.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 11-ы этап.
**18.45** Футбол: Чэмпіянат Еўропы да 17 гадоў. Славенія - Фінал.
**20.45** Скачкі ў ваду: Чэмпіянат Еўропы.
**21.45** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**21.50** Конны спорт.
**22.50** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**22.55** Усе віды спорту.
**23.00** Гольф: Тур PGA. гольф The Players Championship.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35, 13.00** «Пўаро Агаты Крысці», дэтэктыўны серыял: 18 серыя.
**08.25** Два на два (тэледыскусія).
**08.50** На колах.
**09.20** Рэпартэр.
**09.45** Асабісты капітал.
**10.05** Эксперт.
**10.35** «Валянціна і Валянцін Нагорныя», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**10.50** Беларусы ў Польшчы.
**11.05** Euromaxx.
**11.35** «Паэма веры», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**12.00** «Бландзінка», серыял: 7 серыя.
**12.45** Асабісты капітал.
**13.55** Два на два (тэледыскусія).
**14.20** На колах.
**14.50** Рэпартэр.
**15.15** Эксперт.
**15.45** «Валянціна і Валянцін Нагорныя», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**16.00** Беларусы ў Польшчы.
**16.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.30** Euromaxx.
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** «Мінскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Малая Міс Цыганія», дак. фільм, 2009 г., Харватыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Асабісты капітал.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** Вагон.
**20.40** Навігатар.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.45** «Дэкалог, шэсць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**22.50** Два на два (тэледыскусія).
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** Гарачы каментар.

## 17 МАЯ, ЧАЦВЕР

**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Дэтэктыўны серыял « «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія). 3-я серыя.
**10.15** Зямельнае пытанне.
**10.40** Да цешчы на бліны.
**11.10** Камедыйны серыял «Сваты-2».
**12.15** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Серыял «Абдуры мяне» (ЗША).
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дзённік «Еўрабачання».
**15.40** Медычныя таямніцы.
**16.10** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр». Заключная серыя.
**17.15** Меладраматычны серыял «Маруся».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**20.00** Камедыйны серыял «Сваты-2».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Дэтэктыўны серыял « «Ваенная выведка. Заходні фронт» (Расія). 3-я серыя.
**23.05** Драматычны серыял «Абдуры мяне».
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Меладраматычны серыял «Ціхі цэнтр». Заключная серыя.

**06.00, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць выдатна!».
**10.10** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсер. фільм.
**12.00** Прэм'ера. «Жаночы доктар».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Жадаю ведаць» з Міхасём Шырвіндтам.
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Шматсер. фільм.
**18.55** «Хай кажуць» з Андрэем Малахавым.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Лета ваўкоў». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**22.10** «Зачыненая школа». Шматсер.фільм.
**23.15** «Мікіта Хрушчоў. Голас з мінулага» Фільм 1-ы.
**00.15** «Вячэрні Ургант».
**00.45** Начныя навіны.

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Верхаводы». Серыял.
**09.30** «Калі ласка, скардзіцеся».
**09.55** «Прыгоды дылетанта».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты International». Серыял.
**14.40** «Меч». Серыял.
**15.30** «Забойная сіла 2». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Агонь кахання». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** «Верхаводы». Серыял.
**21.25** «Забойная сіла 2». Серыял.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Праўда». Праграма Паўла Каранеўскага.
**23.40** «Аўтапанарама».
**00.00** «Меч». Серыял.
**00.50** «Яшчэ не вечар».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Мінск.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.35** Вышэй за дах.
**10.00** Рэгіянальная праграма.
**11.00** Страсці па культуры.
**11.45** Серыял «Талаш».4-я серыя, закл.
**12.55, 15.40, 18.25** Хакей. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя.
**20.45** Актуальнае інтэрв'ю АТН.
**21.00** Тэлебарометр.
**21.10** Хакей. Чэмпіянат свету. Прамая трансляцыя. У перапынку: КЕНО.
**23.30** Час футболу.
**00.10** Серыял «Талаш». 4-я серыя, закл.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Добры дзень, мама!» Тэлесерыял.
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.25** «Кулагін і партнёры».
**11.55** «Прамы эфір».
**12.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50, 16.50, 19.50, 23.10** Навіны - Беларусь.
**14.30** «З новым домам!» Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**16.20** «Кулагін і партнёры».
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Сваты».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**20.30** «МУР».
**22.15** «Правіла маскараду».
**23.20** «Паядынак». Праграма Ўладзіміра Салаўёва.



**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Таемны шоў-бізнэс».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** Следства вялі.
**11.10** «Да суда».
**12.00** Суд прысяжных.
**13.30** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Баявік «Псеўданім «Албанец»-4».
**21.20** Серыял «Мент у законе».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Ліцейны».



**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05, 20.45** «Простая мова».
**05.20** Д/ф «Дом з гісторыяй».
**06.05** М/с «Гадкае качаня».
**06.40** «Цік-так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Ваўчыца».
**09.25** Праграма «Сардэчна запрашаем.
**10.05, 11.05** М/ф «Атрад адмысловага прызначэння».
**12.20, 22.05** Д/ф «20 гадоў разам».
**13.30** М/с «Крыштальная маска».
**13.55** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Дзядуля маёй мары».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05, 23.10** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Шахматыст».
**21.25, 04.25** «Злачынства і пакаранне».
**00.05** Т/с «Нашы суседзі».
**02.00** «Беларусь сёння».



**00.10** Гольф: Гольф Клуб.
**00.15** Ветразевы спорт.
**00.45** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**00.55** Веласпорт: Нацыянальны тур. 4-ы этап.
**01.45, 09.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі - 11-ы этап.
**09.30** Фітнэс.
**10.30** Тэніс: Турнір WTA. Рым - Дзень 3.
**12.00** Тэніс: Турнір WTA. Рым - 1/8 фіналу.
**15.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Італіі – 12-ы этап.
**18.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**18.45** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў - Фінал.
**21.00** Тэніс: Турнір WTA. Рым - 1/8 фіналу.
**22.15** Скачкі ў ваду: Чэмпіянат Еўропы.
**23.45** Веласпорт: Нацыянальны тур. 5-ы этап.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35, 11.50** «Дэкалог, шэсць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**08.35** «Бландзінка», серыял: 7 серыя.
**09.20** Праект «Будучыня».
**09.45** «Школа на санцапёку», серыял.
**10.10, 14.50** «Малая Міс Цыганія», дак. фільм, 2009 г., Харватыя.
**10.55** Два на два (тэледыскусія).
**11.20, 15.50** Невядомая Беларусь: «Мінскае падполле. Героі і мярзотнікі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**12.50** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.10** «Бландзінка», серыял: 7 серыя.
**13.55** Праект «Будучыня».
**14.25** «Школа на санцапёку», серыял.
**15.30** Навігатар.
**16.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.30** Вагон.
**16.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**17.00** «Школа на санцапёку», серыял.
**17.25** Вагон.
**17.30** Басанож па свеце.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Абарыгены», дак. фільм, 2009 г.
**18.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Гарачы каментар.
**19.20** Эксперт.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.50** Форум (ток-шоў).
**22.40** «Палітыканы», серыял: 8 серыя.
**23.25** Аб'ектыў.
**23.50** Гарачы каментар.

ЧЭМПІЯНАТ

# ЯНУКОВІЧА АДФУТБОЛІЛІ

Алег НОВІКАЎ

**Украінская апазіцыя раскалолася адносна таго, ці на руку ёй байкот чэмпіянату «Еўра–2012» з боку Захаду. Прапануем агляд украінскай апазіцыйнай думкі.**




«Еўра–2012» апынулася разменнай манетай у вялікай палітычнай гульні. Пасля публікацыі фота Юліі Цімашэнка, якая дэманструе гематомы на целе, менавіта футбольны турнір быў абраны палітычным бамондам Еўрасаюза для дэманстрацыі яго стаўлення да кіраўніцтва Украіны.

Спачатку прадстаўніцтва Еўрасаюза ва Украіне заявіла, што ніхто з еўракамісараў не будзе ўдзельнічаць у мерапрыемствах, прысвечаных «Еўра–2012» ва Украіне. Прадстаўнікі еўрапейскіх краін абгрунтавалі сваё рашэнне сітуацыяй з экс-прэм'ерам Юліяй Цімашэнка, якая абвясціла галадоўку ў знак пратэсту супраць ужывання супраць яе фізічнай сілы. Пазней з падобнымі заявамі выступіў тузін лідараў дзяржаў ЕС, уключаючы кіраўніка Еўракамісіі, канцлера ФРГ і г.д. На гэтым справа не закончылася. Цяпер ідзе гаворка пра тое, каб увогуле пазбавіць Украіну права прымаць турнір.

Наўрад ці справа зойдзе так далёка, аднак інцыдэнтаў на турніры будзе хапаць. Напрыклад, міністр замежных спраў Іспаніі кажа, што зборная яго краіны не выйдзе на поле кіеўскага стадыёну, калі трапіць у фінал. Па яго словах, наконт гэтага ёсць нефармальная дамова таксама з Германіяй. Прычым Германія і Іспанія — фаварыты чэмпіянату.

Калі меркаваць па каментарах на блізкіх да апазіцыі сайтах, «аранжавыя» не чакалі такога «падарунку» ад еўрапейцаў. Някіх асаблівых заклікаў да байкоту «Еўра–2012» са свайго боку яны не рабілі. Адзінымі, хто патрабаваў «замарозіць» «Еўра–2012» ва Украіне, былі абаронцы жывёл, незадаволеныя забойствамі бадзяжных катоў і сабак у гарадах, якія збіраюцца прымаць гульні. Аднак іх заклікі амаль ніхто не чуў.

У выніку апаненты Януковіча цяпер пастаўленыя перад дылемай. Што важней: здароўе Цімашэнка або мерапрыемства, падрыхтоўкай да якога краіна жыла апошнія гады? У выніку на старонках апазіцыйнай прэсы пачалася дыскусія пра адносіны палітыкі і спорту, якая, напэўна, цікава і для беларусаў у кантэксце кампаніі за байкот сусветнага хакейнага чэмпіянату 2014 года ў Мінску.

Якія аргументы прыхільнікаў байкоту?

Перш за ўсё, яны спасылаюцца на тое, што байкот турніру (нават калі ён не атрымаецца) — гэта праява салідарнасці з людзьмі, якія сядзяць у турмах за свае палітычныя перакананні. Нядзіўна, што байкот віталі ўсе родныя арыштаваных. Так, дачка Юліі Цімашэнка адзначыла, што сем'і палітвязняў удзячныя дэмакратычнаму свету за такую рэакцыю: «Мы ўдзячныя лідарам дэмакратычных краін за тое, што яны адмовіліся стаяць побач з чалавекам, які не можа спыніць рэпрэсіі і катаванні ў сваёй краіне».

Па-другое, кампанія за байкот фактычна абараняе ўсю апазіцыю, тармозіць працэсы пераўтварэння Украіны ў другую Беларусь. Гэтага нават не хаваюць на Захадзе. «Нямецкі ўрад чакае ад Украіны гарантый правоў апазіцыі ў цэлым, а не толькі рашэння сітуацыі, якая ўзнікла з экс-прэм'ерам Юліяй Цімашэнка», — піша газета «Bild am Sonntag».

Цікавая думка ўкраінскіх эколагаў і краязнаўцаў. Згодна з ёй, падтрымаць байкот — значыць сімвалічна ўзяць дыстанцыю ад усяго таго, што нарабілі ўлады падчас будаўніцтва спартовай інфраструктуры. У гэты перыяд былі высечаныя шматлікія паркі, знішчаныя пад гатэльныя праекты гістарычныя помнікі.

Дарэчы, той будаўнічы бум мае яшчэ адзін непрыемны прысмак. Па разліках эканамістаў, было скрадзена каля 60 працэнтаў ад усіх грошай, якія Захад выдаў Кіеву на будаўніцтва і рэканструкцыю гатэляў, дарог, стадыёнаў. У гэтым плане па інтэрнэт-форумах блукае цікавы тэзіс пра тое, што Януковіч сам зацікаўлены ў байкоце «Еўра–2012», каб не ўсплылі ўсе шэрыя карупцыйныя схемы. Нават сцвярджаюць, што нядаўняя серыя тэрактаў у Днепрапятроўску — справа нейкіх нячыстых на руку падрадчыкаў, якія спрабуюць сарваць «Еўра–2012», каб не ўнікла пытанне, куды зніклі еўрагрошы.

У тых аранжавых, хто супраць байкоту, — свой пакет пераканаўчых аргументаў.

Перш за ўсё, зрыў «Еўра–2012», да якога рыхтуецца ўся краіна, можа быць выкарыстаны Партыяй рэгіёнаў для развязання кампаніі супраць апазіцыі напярэдадні прызначаных на восень парламенцкіх выбараў. Вялікі сектар грамадства апалітычны, жыве больш простымі матэрыямі і не разумее, як можна адмяняць футбол з-за Юлі. «Юля для футбола значыць больш, чым усе стадыёны, аэрапорты і ўся інфраструктура разам узятыя. Калі яна ўжо памрэ?», «Вось чаго (байкоту «Еўра–2012») і дамагалася Юля, вось і прычына сінякоў і галадоўкі. Патрыётка хрэнавая, чым горш Украіне, тым лепш ёй. Змяя рэдкая», — такіх выказванняў вельмі шмат у сегменце укрнэта.

Ужо першыя рэакцыя ўладаў сведчаць пра тое, што далейшая эскалацыя здольная ўзмацніць антыеўрапейскі вектар мыслення ў атачэнні Януковіча. Так, мэр Данецка Лук'яненка параўнаў Меркель і Гітлера, які праводзіў алімпійскія гульні ў 1936 годзе. «І сёння гэтыя краіны заяўляюць, што штосьці трэба байкатаваць. Спачатку трэба разабрацца са сваёй гісторыяй, а потым рабіць нейкія заявы», — сказаў ён.

Па словах галоўнага камуніста Пятра Сіманенкі, партыя якога ўваходзіць ва ўрадавую кааліцыю, «рэзкія заявы лідараў шэрагу еўрапейскіх дзяржаў на адрас прэзідэнта Віктара Януковіча і байкот Ялцінскага саміту — гэта непавага да ўкраінскага народа». «Нам цяпер трэба наогул не зважаць на падобныя заявы і весці нарэшце самастойную палітыку — вельмі цвёрдую, прынцыповую», — кажа Сіманенка.

Правядзенне «Еўра–2012» стане шансам для Украіны і яе жыхароў на ментальнае набліжэнне да ЕС. «Еўрапейцы зразумеюць, што Украіна — гэта не толькі Партыя рэгіёнаў, забойства бадзяжных жывёл, ціск на дэмакратыю і «справа Цімашэнка». У першую чаргу, гэта краіна з насельніцтвам, слаўнымі традыцыямі, багатай гістарычнай спадчынай», — адзначае апазіцыйны партал «Украіньская правда».

Ёсць і тыя, хто спрабуе шукаць кампраміс. Іншымі словамі, падтрымлівае санкцыі, аднак прапануе, каб яны не тычыліся тэмы спорту. Так, народны дэпутат Тарас Чарнавіл лічыць, што «самай эфектыўнай формай ціску ў дадзенай сітуацыі можа быць ужыванне індывідуальных санкцый супраць прадстаўнікоў украінскай улады ў выглядзе забароны на візіты ў ЕС». Не менш арыгінальную ідэю выказаў сайт «Главред»: «Еўрапейская супольнасць нарэшце можа байкатаваць уладу іншымі сродкамі, напрыклад, абвясціць байкот Данецку».

Хаця, магчыма, усё абыдзецца і без байкоту сталіцы Данбасу. Цяперашняя сітуацыя з байкотам «Еўра–2012» і адмова шматлікіх палітыкаў прыехаць на саміт Цэнтральнай Еўропы ў Ялце яшчэ не з'яўляюцца крытычнымі, і калі зрабіць усё правільна, то сітуацыя выправіцца. З іншага боку, планы ўладаў Украіны папулярызаваць краіну пры дапамозе «Еўра–2012», падобна, ужо праваліліся. Незалежна ад таго, дзе і як пройдзе чэмпіянат.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ДЗІТЭР БЛЕХШМІДТ



Дзітэр — кіраўнік секцыі нямецкай кансерватыўнай партыі Хрысціянска-дэмакратычны саюз (CDU) з гораду Плаўнер, што ў Саксоніі. Плаўнер — гэта глыбокая нямецкая правінцыя, аднак Дзітэр праславіў яго на ўсю Германію пасля таго, як сказаў усё, што думае пра сэксуальных меншасці. Па яго словах, гэта хворыя людзі, і менавіта прыналежнасць да геяў Гіда Вестэрвеле (цяперашні дырэктар МЗС ФРГ) стала прычынай крызісу яго Свабоднай дэмакратычнай партыі і нямецкай дыпламатыі. Увогуле, гамафобныя выразы нямецкія палітыкі сабе дазваляюць дастаткова часта, аднак з Блехшмідтам сітуацыя асаблівая. Непасрэдным матывам выказвавць сваё стаўленне да гомасэксуалістаў стаў намер пратэстанцкай царквы прызначыць у Плаўнер святара-гея, што не спадабалася гарадскім уладам пад кіраўніцтвам таго самага Блехшмідта. У дадатак увесь мясцовы актыў CDU падтрымаў адносіны да геяў Дзітэра, нягледзячы на ціск цэнтральнага кіраўніцтва. І, нарэшце, Блехшмідт сваёй крытыкай на адрас Вестэрвеле выказаў думку вялікай часткі грамадства, якая лічыць, што з улікам гамафобскіх забабонаў у шматлікіх краінах, пасаду галоўнага нямецкага дыпламата лепш было аддаць камусьці іншаму. У выніку Блехшмідт стаў героем у вачах шматлікіх немцаў і, больш таго, працягвае абараняць свае погляды. Бомбай у сеціве сталі яго апошнія рэфлексіі наконт таго, што гомасэксуалізм — гэта форма алкагалізму. Адзінага, чаго пакуль дабіліся яго крытыкі — сыход у адстаўку з пасады спікера гарадскога савету ў Плаўнеры.

### ГЕНАДЗЬ ЗЮГАНАЎ



Лідар Камуністычнай партыі Расійскай Федэрацыі (КПРФ) пасля паразы на апошніх выбарах вырашыў шукаць новы імідж. Цяпер камуністы выступаюць як галоўныя абаронцы праваслаўя. Палітолагі адзначаюць, што апошнім часам КПРФ занадта актыўная ў гэтай галіне. Так, у Думе па іх ініцыятыве створаная міжфракцыйная група ў абарону хрысціянскіх каштоўнасцяў. Больш таго, прадстаўляючы ініцыятыву, адзін з яе арганізатараў заявіў: «Нельга ставіць цяперашнім камуністам у віну грахі 1920-х гадоў, ідэі «ваяўнічых бязбожнікаў» ці маштабныя «хрушчоўскія» ганенні на царкву напачатку 1960-х гадоў. Далей за ўсіх пайшла піцерская арганізацыя КПРФ, якая 3 мая сярод іншага патрабавала ад усіх камуністаў гораду на Няве да 1 чэрвеня праглядзець усе свае запісы ў сацыяльных сетках і вычысціць іх ад матэрыялаў антыцаркоўнага характару. Пакуль цяжка сказаць, ці сапраўды КПРФ хоча стаць хрысціянскай партыяй, ці гэта часовая кампанія. Наіўна думаць, што РПЦ, якая падтрымала кандыдатуру Пуціна на выбарах, стане падтрымліваць і КПРФ. Ёсць версія, нібы КПРФ далі зразумець, што ў хуткім часе непазбежны знос маўзалея, абарона якога была фішкай партыі. Каб не згубіць твар, Зюганаў тэрмінова рыхтуе свой электарат, каб той зразумеў факт пахавання цела Леніна адпаведна праваслаўнай дактрыне як добрую справу.

### ЯРАСЛАЎ КАЧЫНЬСКІ

Лідар польскай апазіцыйнай партыі «Права і справядлівасць» (PiS) працягвае распрацоўваць сваю версію трагедыі пад Смаленскам у красавіку мінулага года. Яраслаў даўно спрабуе давесці, што трагедыю арганізавалі Пуцін і цяперашні ліберальны прэм'ер Дональд Туск. Аднак для чаго? Ускосна адказ на гэта пытанне даў аналіз стану падрыхтоўкі краіны да правядзення турніру «Еўра–2012». Як лічыць PiS, транспартная інфраструктура аказалася не гатовая да чэмпіянату, а заходнія інвестыцыі не зразумела куды зніклі. Не выключана, што іх «асвоілі» і «распілавалі» ўрадавыя чыноўнікі, махінацыям якіх перашкаджаў нябожчык-прэзідэнт Лех Качыньскі. Адсюль, быццам, тырчаць і ногі аварыі пад Смаленскам. Самае цікавае, што, асуджаючы жудасны стан падрыхтоўкі Польшчы да чэмпіянату, Яраслаў Качыньскі заклікаў перанесці правядзенне фіналу «Еўра–2012», які адбудзецца 1 ліпеня, з Кіева ў Варшаву.



▸ УЗГАДАЦЬ УСЁ

# ПАРАДОКСЫ 1993 ГОДА

Алег НОВІКАЎ

**1993 год можна лічыць адным з самых парадаксальных у сучаснай беларускай гісторыі. З аднаго боку, працягваліся эканамічная дэпрэсія і палітычны крызіс, імкліва рос недавер да элітаў, краіну накрыла хваля злачыннасці. З іншага боку, гэты год — зеніт «кебічаўскага лібералізму», нябачаных да гэтага свабоды слова і магчымасцей прарыву да дэмакратыі.**






Пра эканамічны тонус беларусаў, дарэчы, добра сведчыць рэпертуар тагачасных КВЗ. Так, каманда з Віцебскага педінстытута на адным з фестываляў выконвала песню на матыў «Бухенвальдскага набату»: «Водка была 9,20.// Помните. // Хлеба буханка 16 коп. // Помните. // Пока сердца стучатся, помните // О том, что уже никогда не придет. //Помните».

Лозунг мінскіх анархістаў і Саюза беспрацоўных, з якім яны выйшлі на пікет 17 сакавіка, канчаткова згубіўшы давер да айчыннага палітыкуму: «ААН, навучы, як жыць!»

Напрыканцы года справа дайшла да забойстваў губернатараў, стральбы з гранатамётаў на плошчы Незалежнасці, перастрэлак пасярод бела дня на вуліцах абласных цэнтраў. Паколькі міліцыя яўна не спраўлялася, соцыум таксама ўключыўся ў барацьбу з крыміналам. У вёсцы Любішча (Івацэвіцкі раён) сельсавет увёў пакаранне розгамі. Такім чынам вяскоўцы збіраліся спыніць крадзеж у хатах гарэлкі і ежы.

У зводках міліцыі, праўда, знайшлося месца і адной цікавай навіне, якая сведчыць, што ідэя беларускай незалежнасці нарэшце пайшла ў масы. 15 студзеня 1993 года міліцыя выявіла першага ў гісторыі фальшывага «зайчыка». Падробленую купюру наміналам у сто рублёў знайшлі ў Магілёве. Яна была намалявана фламастэрам. Гісторыя, на жаль, не ведае аўтара гэтага шэдэўру.

Па «кебічаўскім лібералізме» да гэтага часу сумуе шмат людзей, якія засталі тую эпоху ў свядомым узросце. Ім «ліхія 90-я» далі ўнікальную магчымасць для самарэалізацыі ў шматлікіх сферах жыцця. Інфраструктура постсавецкага грамадства толькі пачала складацца.

Менавіта ў 1993 годзе фармуецца новая канфігурацыя медыйнага поля, дзе тон задаюць ужо не дзяржаўныя, а незалежныя выданні, напрыклад «БДГ». У эфіры годную канкурэнцыю Белтэлерадыё аказваюць вольныя студыі, кшталту 8-га каналу, і першыя FM-радыёстанцыі.

Наладжваецца сапраўднае партыйнае жыццё. Увесну БНФ атрымлівае памяшканне славутай сядзібы на Варвашэні. Квітнее культура — у Магілёве адкрылі першы ў Беларусі рок-клуб. Узнікаюць контуры трэцяга сектару, у якім не апошнюю ролю адыгрывае Ліга абароны правоў чалавека Яўгена Новікава — цяперашняга ці не самага адыёзнага каментатара на БТ, які лічыць правы чалавека прапагандысцкай зброяй заходніх імперыялістаў.

Як добра сказаў пра дух пачатку 1990-х адзін з герояў рамана Пялевіна: «Цяпер адмысловы час. Такога ніколі раней не было і ніколі потым не будзе. ...Ёсць рэальная магчымасць упісацца ў гэту сістэму, прыйшоўшы прама з вуліцы. Тое, на што ў Нью-Ёрку паўжыцця кладуць, каб толькі з правільнымі людзьмі сустрэцца за абедам».

Аднак не ўсім грамадзянам было так добра ад постсавецкіх рэалій. Здаецца, лепшай квінтэсэнцыяй Беларусі 1993 года быў апісаны ў «Знаменцы» эпізод у грамадскім транспарце. Журналіст падгледзеў, як нейкая бабка ў салоне аўтобуса дала торбай па галаве хлопцу, што стаў наперадзе. На яго пытанне: «За што?», жанчына адказала: «А каб не смяяўся».

Людзі кшталту той жанчыны — тыповай ахвяры крызісу — не ўпісаліся ў трэнды часу. Яны выжывалі, настальгавалі па мінулым і марылі пра рэванш. Гэта ідэя фікс саўка перадаецца элітам, якія аказаліся не гатовыя да структурных рэформаў.

Як знак з цэнтру афіцыйны Мінск успрыняў адстаўку Ягора Гайдара і з'яўленне на палітычнай арэне «моцнага гаспадарніка» Віктара Чарнамырдзіна, што ўступіў на пасаду расійскага прэм'ера з кароннай фразай: «Я за рынак, аднак супраць базару». Аналагічныя працэсы назіраліся ва Украіне, дзе на пасаду кіраўніка Кабміну прыйшоў «чырвоны дырэктар» Леанід Кучма, які пачаў канфліктаваць з прэзідэнтам Краўчуком.

І двух гадоў не прайшло, як беларуская наменклатура з апераджэннем сваіх расійскіх чырвона-карычневых саюзнікаў пачала спрабаваць адкруціць махавік гісторыі назад. На мяжы 1993-га самая буйная ў парламенце група «Беларусь», якая фармавалася з былых савецкіх апаратчыкаў, перажыла прыступ амнезіі — забылася, што не так даўно галасавала за роспуск Савецкага Саюза. Цяпер любімай справай спікераў фракцыі на трыбунах ВС становіцца патрабаванне дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў. 3 лютага 1993 года нардэпы з «Беларусі» дамагліся прыняцця рашэння аб адмене сваёй жа, прынятай у жніўні 1991-га, пастановы аб часовым прыпыненні дзейнасці Кампартыі.

Напэўна, гэта быў самы вар'яцкі выпадак у гісторыі, калі нейкая палітычная групоўка (парламенцкая група «Беларусь» па прыродзе як бы левая) падтрымала стварэнне структуры, што была яе непасрэдным палітычным канкурэнтам. 25 сакавіка, як жартавалі аглядальнікі, да свята Дня Волі, камуністы абвясцілі пра стварэнне сваёй фракцыі ў ВС.

Навіна з Авальнай залы абудзіла беларускае палітычнага балота, якое пасля таго, як увосень правалілася ідэя рэферэндуму наконт даверу да ВС, знаходзілася ў стане летаргічнага сну. Аляксандр Фядута нават развіваў канцэпцыю пра тое, што недзе паміж палітычнымі акторамі падпісаны негалосны пакт аб ненападзе, накшталт канвенцыі паміж дзецьмі лейтэнанта Шміта. Па яго словах, акторы (апазіцыя і наменклатура) прызналіся, што першыя не могуць кіраваць, а другія — прыйсці да ўлады. Таму і вырашылі папросту дацягнуць да новых выбараў.

Апазіцыя рашуча паўстала супраць вяртання чырвоных. Так, усе фермеры Докшыцкага раёна, даведаўшыся пра легалізацыю ПКБ, дружна запісаліся ў Сялянскую партыю, якую ў чырвонай прэсе называлі «партыя кулакоў». Партыя БНФ заявіла, што ўрад Кебіча — гэта «ўрад камуністаў», і заклікала да байкоту з'езду беларусаў свету, які быў прызначаны на ліпень. А эсдэкі ўвогуле выступілі за правядзенне канферэнцыі, на якой планавалі перагледзець вынікі так званай Берлінскай канферэнцыі 1925 года аб ліквідацыі БНР.

Сапраўды, пасля 3 лютага пачынаецца імклівая рэабілітацыя савецкага мінулага, што часам выглядала вельмі забаўна.

Напрыклад, у Баранавічах камуністы, якія выйшлі з падполля, адразу пасля абвяшчэння легалізацыі Кампартыі наладзілі выпуск газеты «Товарищ». У першым нумары быў апублікаваны ліст чытача (!) газеты з Манголіі нейкага Б. Явдухулана, які пісаў: «Мы, манголы, верым, што справа Кастрычніка і Леніна будзе жыць». У калгасе «Сацыялістычны шлях» Крычаўскага раёна камуністы патрабавалі ад кіраўніцтва калгасу грошай на ўтрыманне іх суполкі, паколькі «Кампартыя — адзіная грамадская арганізацыя, якая абараняе інтарэсы рабочых і сялян». Як пісала агенцтва РИД, на фоне навін пра адраджэнне ПКБ у мінскіх гатэлях з'явілася элітная валютная путана па мянушцы Камсамолка. Быццам перад тым, як легчы ў ложак, яна даставала з торбы камсамольскі білет і ўрачыста цалавала яго. Кліенты, калі верыць агенцтву, папросту вар'яцелі ад гэтай сцэны. У адным з інтэрв'ю тагачасны гродзенскі дэмакрат Аляксандр Мілінкевіч распавядаў, нібыта кіраўнік гродзенскага КДБ у нейкай прамове перад ветэранамі вайны казаў, што «Маршрут Напалеона» — створаны гродзенскімі краязнаўцамі тур па слядах гісторыі вайны 1812 года — не што іншае, як карта закідвання ў краіну французскіх шпіёнаў.

З гэтай жа серыі — вяртанне ў палітычны дыскурс прозвішча Пятра Машэрава. Да 75-х угодкаў з дня нараджэння Машэрава на старонках шматлікіх газет з'явіўся опус «Наш Міронавіч» за подпісам Кебіча. У ім прэм'ер апісваў свае адносіны з нябожчыкам і адначасова спрабаваў выставіць сябе галоўным пераемнікам ягонай спадчыны, якая, па словах аўтара, заключалася ў тым, каб уважліва слухаць людзей і стабільна развіваць эканоміку. Пазней высветлілася, што артыкул размяшчалі ва ўсіх газетах па разнарадцы ўраду.

Гэтая супярэчнасць — плынь савецкай дэмагогіі на фоне паўзучай «прыватызацыі» і сацыяльнай палярызацыі — прывяла да дэвальвацыі аўтарытэта Кебіча, які ўвасабляў той курс. Ад лета ў праўладным лагеры пачынаецца фронда. Прафсаюзы і Саюз беларускай моладзі (нашчадак камсамолу) збіраюць подпісы за адстаўку ўраду і пагражаюць страйкам. Напрыканцы года «ўдарам у спіну прэм'ера» называе ўрадавая прэса адкрыты ліст двух сілавых міністраў, якія патрабуюць ад Кебіча рэформы памежных войскаў.

Сваё слова ў падзенні рэйтынгу Кебіча сказала і непаслядоўная палітыка Расіі. Тройчы на працягу 1993 года падпісваліся «прарыўныя» эканамічныя дамовы наконт інтэграцыі і геапалітычнай кааперацыі, і тройчы вынік іх быў вельмі супярэчлівы. Больш за тое, здавалася, што Масква кажа адно, а робіць іншае. Так, увосень пасля дзяжурнай серыі баек пра славянскае сяброўства, Ельцын увёў у Маскве «візавы рэжым» у тым ліку і для беларусаў. Кожны грамадзянін Сінявокай, пакідаючы Першапрастольную, павінен быў спачатку заплаціць за знаходжанне ў горадзе. Без гэтай квітанцыі чыгуначныя касы не мелі права прадаваць квіткі.

Яшчэ большую свінню падклаў Ельцін Кебічу ў ліпені. Праз тыдзень пасля падпісання міжурадавай дамовы пра эканамічны саюз расійскі Цэнтрабанк («каварна» — як адзначыў грузінскі МЗС) вывеў з абароту купюры СССР. Гэта справакавала крызіс неплацяжоў, дэфіцыт бензіну і паліва, і, як следства, параліч працы прамысловых гігантаў. Прыпынілі працу 45 прадпрыемстваў, уключна з МТЗ і БелАЗам. З фальклору таго часу: «Савецкая ўлада мінус электрыфікацыя».

Нарэшце, Кебіч, што стаў заснавальнікам чыровна-карычневай рыторыкі, аказаўся ў лагеры праціўнікаў Ельцына, якія ўвесь 1993 год рыхтаваліся да рашаючай сутычкі за ўладу. У ліпені дэлегацыя фракцыі «Беларусь» правяла перамовы з Русланам Хасбулатавым, спікерам Вярхоўнага Савета РФ, галоўным апанентам ЕБН. Сярод іншага ўдзельнікі сустрэчы абмяркавалі ідэю аб'яднання парламентаў Расіі і Беларусі пад праект новага СССР. У кастрычніку да самага апошняга моманту, пакуль не стаў відавочны вынік путчу, урад, у адрозненні ад ВС, не заняў яснай пазіцыі.

У выніку, калі канфлікт Вярхоўнага Савета і Ельцына закончыўся на карысць апошняга, Кебіч і яго паплечнікі з фракцыі «Беларусь» аказаліся ў скуры камуністаў жніўня 1991-га. Гэта, здавалася, давала новы шанец беларускай дэмакратыі, якім яна, аднак, зноў не здолела скарыстацца.

СПАДЧЫНА

# НАШ СУАЙЧЫННІК — АДОЛЬФ ЯНУШКЕВІЧ

Лявон ЦЕЛЕШ

**У Казахстане добра вядома імя падарожніка, пісьменніка, паэта, носьбіта высокага духу Адольфа Янушкевіча. У Беларусі, на сваёй радзіме, ён мала вядомы.**


Адольф Янушкевіч

Нарадзіўся Адольф Міхал Валяр'ян Юльян Янушкевіч 9 чэрвеня 1803 года ў Нясвіжы. Яго маці, Тэкля, была ўнучкай роднай сястры Тадэвуша Касцюшкі Ганны. Менавіта ад яе ішоў патрыятызм у сям'і. Бацька Міхал служыў у Радзівілаў і з'яўляўся даверанай асобай Міхала Гераніма Радзівіла, які і хрысціў Адольфа. Дзіцячыя гады малога Адольфа прайшлі ў вёсцы Вусава, што на Капыльшчыне. У 1821 годзе Янушкевічы набылі маёнтак Дзягільна, што ў 4 кіламетрах ад былога Койданава. У гэтым жа годзе васямнаццацігадовы Адольф паступіў на вучобу ў Віленскі ўніверсітэт, на літаратурнае аддзяленне.

У час вучобы ва ўніверсітэце юнак блізка сышоўся з сябрамі тайнага таварыства філарэтаў — Тамашам Занам, Юзафам Яжоўскім. Тут пазнаёміўся з Адамам Міцкевічам, Янам Чачотам. У гады вучобы Адольф надрукаваў свой першы паэтычны твор «Мелітон і Эвяліна». У 1829–1830 гадах Адольф Янушкевіч здзейсніў падарожжа па Заходняй Еўропе, дзе сустракаўся з Гётэ, паэтам, мемуарыстам, выдаўцом Антонам Эдвардам Адынцом, а таксама з Адамам Міцкевічам, які пазней адлюструе Адольфа ў трэцяй частцы паэмы «Дзяды».

Ад самага пачатку Адольф Янушкевіч — актыўны ўдзельнік паўстання 1830–1831 гадоў, на карысць якога ахвяруе 1000 злотых і дыяментавы пярсцёнак. Адзін з кіраўнікоў легіёна Валыні, Літвы, Падолля і Украіны. У сакавіку 1831 года падчас баёў з расійскімі войскамі быў цяжка паранены і трапіў у палон. Царскі ўрад прыгаварыў яго да смяротнага пакарання, якое было заменена на пазбаўленне ад шляхецтва і на бестэрміновую высылку ў Сібір. Яго цяжкі высыльны шлях пачынаўся з гарадоў Табольска, Ішыма, дзе ён пазнаёміўся і пасябраваў з паэтам-дзекабрыстам Аляксандрам Адоеўскім.

У 1846 годзе Адольф Янушкевіч разам з экспедыцыяй пачынае вандраваць па казахскіх стэпах, занатоўвае казахскі фальклор, засвойвае мову казахаў. У час вандроўкі яму давялося пазнаёміцца з бацькам будучага пачынальніка пісьмовай казахскай літаратуры, а самога маленькага Абая Кунанбаева Адольф нават лячыў ад хваробы.

Сасланы ў 1832 годзе, Адольф Янушкевіч вярнуўся на радзіму, у Дзягільна, аж праз 24 гады. Як да гаючай крыніцы і найлепшых лекаў прыпаў ён да роднай зямлі. Аднак магутны лекар — Радзіма, не дапамог пераадолець цяжкую хваробу — сухоты. 18 чэрвеня 1857 года Адольфа Янушкевіча не стала. Ён быў пахаваны на могілках у Дзягільна. У сваім вершы «Балада Адольфа Янушкевіча» паэт Віктар Шніп пісаў: «Прад матуляй стаяў і зноў будзеш стаяць.//Як у Дзягільна роднае вернешся хворы».

Адольф Янушкевіч вёў дзённікі, пісаў лісты беларускім родзічам. Усе гэтыя каштоўныя матэрыялы неўзабаве былі выдадзены на польскай мове ў 1861 годзе ў Парыжы яго братамі Яўстахіем і Рамуальдам у выдавецтве Фелікса Вратноўскага. У 1875 годзе кніга была перавыдадзена ў Берліне. Вялікую цікавасць да яе праявіў Іван Тургенеў.

Царскі расійскі ўрад і чыноўніцтва лічылі казахаў, як і нас, беларусаў, цёмным народам, што не мае сваёй культуры. Адольф Янушкевіч быў першым, хто абараніў культуру казахаў, і верыў, што прыйдзе час, калі качэўнікі стэпаў зоймуць пачэснае месца сярод народаў свету.


Так выглядаюць могілкі сям'і Янушкевічаў


Грамадскія актывісты на могілках у 2009 г.

У 1966 годзе казахская даследчыца Фаіна Сцяклова пераклала кнігу на рускую мову, якая і была выдадзена пад назвай «Дневники и письма из путешествия по казахским степям». А ў 1979 годзе кніга выйшла ў перакладзе на казахскую мову. Фаіна Сцяклова ў 1978 годзе наведала могілкі ў Дзягільна, дзе пахаваны Адольф Янушкевіч, яго бацькі і родныя. Можна толькі здагадвацца аб ураджанні Фаіны Сцякловай ад убачанага, у якім стане знаходзяцца могілкі. Але пра гэты ніжэй.

Да 200-годдзя Адольфа Янушкевіча ў Польшчы была выдадзена кніга «Listy z Sibirii», дапоўненая матэрыяламі Фаіны Сцякловай з расійскіх і Яна Трынкоўскага з польскіх архіваў. Рупліўца на ніве беларушчыны, грамадская дзеячка з Дзяржынска Ганна Суднік-Матусевіч пераклала гэту кнігу з польскай на беларускую мову (пабачыла свет у 2008 годзе ў выдавецтве «Медзісант» пад назвай «Жыццё Адольфа Янушкевіча і яго лісты з кіргізскіх стэпаў»).

У 2007 годзе Ганна Суднік-Матусевіч са сваёй дачкой Веранікай адшукалі магілу Адольфа Янушкевіча, якая, як і магілы яго родзічаў, была ў вельмі непрыглядным стане. Участак могілак быў парослы хмызняком, высокім травастоем, надмагільныя пліты ляжалі пад зямлёй. Магчыма, тут не абышлося без «чорных капальнікаў», якія шукалі ў магілах каштоўнасці.

Мясцовыя жыхары распавялі, што яшчэ ў 1920–1930-я гады, у разгар антырэлігійнай кампаніі, помнікі і пліты з гэтых могілак былі знесены мясцовымі жыхарамі на падмуркі сваіх хат. З цягам часу грамадскія дзеячы з Мінска, Дзяржынска і навакольных вёсак на падыходзе да могілак устанавілі вялізны крыж, які сведчыў, што тут знаходзяцца пахаванні. З тым, каб удакладніць месцы пахавання Адольфа Янушкевіча і яго родных, вядомы беларускі археолаг Мікола Крывальцэвіч праводзіў разам з актывістамі раскопкі на могілках.

Днямі я наведаў Дзягільна і старыя могілкі. Хмыз на іх расчышчаны, устаноўлены тры надмагільныя пліты з надпісамі на польскай мове. Контуры магіл не вызначаны, замест надмагільных пагоркаў — упадзіны.

У далёкім Казахстане шануюць нашага выдатнага суайчынніка, у сталіцы краіны — Астане і ў былой сталіцы — Алма-Аце імем Адольфа Янушкевіча названы вуліцы. Ён лічыцца народным героем Казахстана. А на яго радзіме нават магіла знаходзіцца ў занядбанні. Прадстаўнікі грамадскасці зрабілі, што змаглі, а на іншае павінны быць сродкі — добраўпарадкаваць могілкі, і, магчыма, паставіць помнік Адольфу Янушкевічу. З цягам часу гэтую мясціну, як і будынак, дзе жылі Янушкевічы, маглі б наведваць турысты.

Згаданы старажытны будынак знаходзіцца на адной з вуліц Дзягільна, прыкладна ў 600 метрах ад могілак. Раней дом Янушкевічаў выкарыстоўваўся пад інтэрнат для калгаснікаў, затым доўгі час пуставаў, і яго для свайго прыстанішча аблюбавалі бамжы. Зараз тут гаспадарыць індывідуальны прадпрымальнік, які вырабляе лесвіцы. Ён крыху падрамантаваў будынак, уставіў вокны, дзверы. Але вонкавы дому выгляд вельмі непрыглядны. Варта было б гэты помнік XIX стагоддзя адрамантаваць і ўзяць пад ахову дзяржавы.

Непадалёк ад былой сядзібы ёсць крыніца, з якой сямейства Янушкевічаў, а да нядаўняга часу і жыхары Дзягільна бралі смачную, гаючую ваду. Мясцовыя ўлады вырашылі надаць крынічцы больш «цывілізаваны» выгляд — узялі ў бетоннае кальцо, на дне якога цяпер добра сябе адчуваюць жабкі. І ніхто больш не прыходзіць сюды за вадой.

У Ракуцёўшчыне, што на Маладзечаншчыне, ёсць Максімава крынічка, з якой Максім Багдановіч піў ваду. А чаму б і тут не прывесці ў добры стан крынічку, і назваць яе Янушкевіцкай? У наступным годзе спаўняецца 210 гадоў з дня нараджэння Адольфа Янушкевіча. Зусім верагодна, што вёску Дзягільна пажадаюць наведаць работнікі пасольства Рэспублікі Казахстан, госці з Казахстана. І што яны тут убачаць? Ці не сорамна будзе перад гасцямі мясцовым і рэспубліканскім уладам? А мо яны прытрымліваюцца прыказкі: «Сорам не дым, вочы не выесць»?


Будынак, у якім жылі Янушкевічы


АНОНС

# «ПРАМЕНЬ СОНЦА»

## Незвычайны канцэрт у незвычайным месцы

**17 мая ўсю ноч, да ўзыходу сонца,** для вас граюць: **AMAROKA,** малады беларускамоўны гурт у амерыканскай панк-стылістыцы; **Paprika Korps (PL)** — адзін з лепшых рэгі-гуртоў Польшчы і ўсёй Еўропы; **N.R.M.** — легендарны беларускі гурт прэзентуе сваю новую праграму, іх песня «Прамень» — загалоўная песня ўсяго мерапрыемства; **DJ Laurel** — вядомы беларускі DJ выканае свой адмысловы сэт.

Канцэрт з'яўляецца дабрачынным арт-мерапрыемствам і прымеркаваны да «Ночы музеяў–2012», таму пачнецца ў 23.00 і працягнецца да 04.00, а пасля — усе ўдзельнікі разам сустрэнуць УЗЫХОД СОНЦА!

Афішу «Прамень Сонца» адмыслова зрабіў вядомы беларускі мастак і дызайнер Уладзімір Цэслер.

**Месца правядзення:** Куйбышава, 22, вялікі цэх заводу «Гарызонт», 2 паверх.

**Пачатак:** 23.00. **Кошт:** 30.000

Увага! Набывайце квіткі! Сабраныя ад продажу квіткоў грошы пойдуць на музычныя інструменты для дзіцячых дамоў.

Квіткі ва ўсіх галоўных касах Мінску і на Ticketpro:
http://www.ticketpro.by/jnp/music/859429-minsk-gorod-ogn9.html

**Інфалінія:** (+ 375 29) 380 00 45, (+ 375 29) 782 88 81.

**Падрабязней:** http://vk.com/pramensonca; http://www.facebook.com/events/132722553518659/





ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

### Шэлі — ласкавая дзяўчынка з годным позіркам



Нягледзячы на цяжкія ўмовы жыцця, Шэлі захавала спакой і выхаванасць. Хоць выгляду Шэлі і грознага, але добра ставіцца да дзяцей. Ёй толькі тры гады, ростам каля 50 сантыметраў, тыгравай афарбоўкі. Рыхтуецца да стэрылізацыі.

Валанцёр прытулку «СуперПёс» гатова пазнаёміць вас з прыгажуняй Шэлі, тэлефануйце: 8-029-775 57 53 (Анастасія).

### Шансі — ідэальная котка

Цяжка зразумець, як беспраблемную ва ўсіх адносінах котку вырашылі здаць у пункт адлову на Гурская, 42. Але ж здалі… Зараз Шансі чакае свой другі шанец знайсці ўтульны дом і клапатлівых гаспадароў. Характар у яе проста анёльскі: даецца ціскацца, калі гуляецца — не драпаецца, дазваляе сябе вычэсваць. Ненавязлівая, ахайная, ходзіць у латочак.

Шансі 2,5 гады, стэрылізаваная, прышчэпленая ад шаленства. Мае шыкоўнае срэбна-шэрае футра з белай манішкай.

Шансі прынясе радасць у ваш дом! Тэлефануйце валанцёрцы прытулку «СуперКот» Кацярыне: 8-029-378 78 26.




КІНО

# НА РОСТАНЯХ ЕЎРАПЕЙСКАГА КІНО

Андрэй РАСІНСКІ

**З 11 па 17 мая мінскі кінатэатр «Перамога» прадстаўляе IV Фестываль еўрапейскага кіно. Сярод нямецкіх, французскіх і чэшскіх стужак — адна беларуская, сюжэт якой выклікае глыбокі ступар.**

11 мая Прадстаўніцтва Еўрапейскага саюза ў Беларусі распачынае ў сталіцы фэст еўрапейскага кіно, што праходзіць ужо чацвёрты раз. Імпрэза ладзіцца пры падтрымцы амбасадаў і беларускага Міністэрства культуры.

Фэст адкрываецца брытанскай стужкай «Каралева» — пра Лізавету II. Прадаўжае прагляды літоўская драма «Вір», што распавядае пра пакаленне, жыццё якога прыпала на савецкую эпоху.

Сярод фільмаў — чэшская анімацыя «Вясёлая каза», дацкі мультфільм «Прайдзісветы», польская драма «Варшава» і французскі мюзікл «Усе песні толькі пра каханне». Італьянская камедыя «Ноч перад іспытам» апавядае пры студэнцкія прыгоды, а шведская драма «Даражэнькая» расскажа нялёгкую гісторыю пра каханне недарэкі сталага веку ды маладой прыгажуні.

Усяго ў праграму фэсту ўключаныя 15 фільмаў з 13 краінаў. На мінскім экране будуць стужкі з Ірландыі, Славакіі, Фінляндыі, якія рэдка даходзяць да нашага гледача. Але ёсць у праграме і ўвогуле адна з самых унікальных карцін.

Беларускую стужку «На ростанях» Віталя Дудзіна амаль ніхто не бачыў, хаця яна знятая яшчэ летась. Фільм не мае нічога агульнага з раманам Якуба Коласа (руская назва стужкі «На перепутье»). Выхаваўчая меладрама распавядае пра ганарлівую прыгажуню Кацю, якая не хацела ехаць па размеркаванні ў вёску, але ўсё ж такі туды трапіла. Заўзятары беларускага трэшу загадзя ўпадабалі гэтую стужку, а зараз яе можна пабачыць.

Карцінай пра непаўторную беларускую мадэль еўрапейскі кінафэст завяршаецца.

**Расклад паказаў наступны:**

**11 мая (пятніца)**
18:30 «Каралева» (Вялікабрытанія)
21:00 «Вір» / «Duburys» (Літва)

**12 мая (субота)**
17:20 «Вясёлая каза: легенды старой Прагі» (Чэхія)
19:00 «Аднойчы» / «Once» (Ірландыя)
21:00 «Даражэнькая» / Darling (Швецыя)

**13 мая (нядзеля)**
17:20 «Прайдзісветы» / «Olsen Banden pe de Bonede Gulve» (Данія)
19:00 «Лавэ» (Славакія)
21:00 «Зіма даўжынёю ў год» / «Im Winter ein Jahr» (Германія)

**14 мая (панядзелак)**
19:00 «Бяжы, сястра, бяжы» (Фінляндыя)
21:00 «Помста» (Данія)

**15 мая (аўторак)**
19:00 «Варшава» / «Warszawa» (Польшча)
21:00 «Хітрык» (Францыя)

**16 мая (серада)**
19:00 «Ноч перад іспытамі — сёння» / «Notte prima degli esami — Oggi» (Італія)
21:00 «Усе песні толькі пра каханне» (Францыя)

**17 мая (чацвер)**
19:00 «На ростанях» / «На перепутье» (Беларусь)




Уваход на ўсе фільмы — вольны. Тэлефон кінатэатру «Перамога» 203-77-66.




АБ'ЯВА

# КРАЯЗНАЎЧЫ ФЕСТЫВАЛЬ

**ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» ў межах выканання праекта «Захаванне культурнай спадчыны праз удзел у краязнаўчай дзейнасці» ладзіць 28 мая Краязнаўчы фестываль.**




**ПРАГРАМА ФЕСТЫВАЛЮ:**
**10.00–11.00** Рэгістрацыя ўдзельнікаў.
**11.00–13.00** Дыскусійныя пляцоўкі па тэмах:
1) Валанцёрскі рух на Беларусі: набыткі, поспехі, перспектывы.
2) Ахова помнікаў як дзяржаўны клопат і як праява грамадзянскай пазіцыі.
3) Перспектыўныя накірункі развіцця турызму ў Беларусі.
**13.00–14.00** Абед.
**14.00–16.00** Прэзентацыі, майстар-класы, кірмаш рамёстваў.
**16.00–16.45** Выступ этна-, фольк-выканаўцаў.
**16.45–17.00** Закрыццё фестывалю.

Мерапрыемства адбудзецца ў памяшканні Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь (г. Мінск, вул. К. Маркса, 12,).

Запрашаем да ўдзелу!

Заяўку з указаннем формы ўдзелу (дыскусійная пляцоўка або майстар-клас) просім дасылаць на адрас siadziba@gmail.com з пазнакай «Фестываль».

Іншагароднім удзельнікам фестывалю гарантуецца аплата праезду і аплата выдаткаў на харчаванне.

Шаноўнае спадарства! Калі вы хочаце больш даведацца пра дзейнасць ТБМ, завітайце на наш партал: tbm-mova.by

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 431

Падпісана да друку 11.05.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.